# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў"
і Грамадскай арганізацыі "Беларускае таварыства
дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі"

## ЗМЕСТ



• № 10 (58) • КАСТРЫЧНІК • 2000 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Грамадскае аб’яднанне “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”,
Грамадская арганізацыя “Беларускае таварыства дружбы
і культурнай сувязі з замежнымі краінамі”**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,
вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт ГА “МАБ”**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**Беларусы сустракаюць гасцей — прадстаўнікоў іншых нацыянальных
супольнасцей Беларусі ў час ІІІ Усебеларускага фестывалю
нацыянальных культур**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам ГА “МАБ”, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 2000 г.): у Беларусі — **500 рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская, англійская і ў перспектыве — руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы і валютны —
3015000005287 у Мінскім абласным упраўленні
АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**



## ТАК ПРАХОДЗІЎ III УСЕБЕЛАРУСКІ ФЕСТЫВАЛЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР



*Свята ідзе па Гродне*

Беларусь з'яўляецца шматнацыянальнай краінай, у якой пануе міжнацыянальная раўнавага.

Па даных перапісу насельніцтва ў мінулым, 1999 г. з 10 045 000 жыхароў Беларусі 81% аднеслі сябе да тытульнай нацыянальнасці — беларусаў; 19% прадстаўляюць больш за 140 нацыянальнасцей і народнасцей, у тым ліку 11% (1 141 731 чалавек) назвалі сябе рускімі; 3,9% (395 712 чал.) — палякамі; 2,4% (237 015 чал.) — украінцамі; 0,3% (27 798 чал.) — габрэямі; больш чым па 10 тысяч чалавек назваліся адпаведна армянамі і татарамі; каля 10 тыс. — цыганамі; больш чым па 6 тыс. — літоўцамі і азербайджанцамі; больш чым па 4 тыс. — малдаванамі і немцамі; 3 тыс. — грузінамі.

Па стану на 1 ліпеня 2000 г. у Беларусі зарэгістраваны і дзейнічаюць 85 грамадскіх арганізацый з прадстаўнікоў 20 нацыянальных супольнасцей, у тым ліку: габрэйскіх — 35, польскіх — 8, літоўскіх — 7, нямецкіх — 5, рускіх і ўкраінскіх — па 4, армянскіх, цыганскіх і татарскіх — па 3, азербайджанскіх і грэчаскіх — па 2, а таксама грузінская, казахская, карэйская, латышская, малдаўская, сірыйская, чувашская, эстонская грамадскія арганізацыі. У Міжнародным фондзе развіцця татара-башкірскай духоўнай спадчыны аб'ядналіся татары і башкіры. З агульнай колькасці нацыянальных аб'яднанняў 30 маюць статус міжнародных і рэспубліканскіх.

Яркім прыкладам практычнай рэалізацыі нашай палітыкі ў сферы адраджэння, захавання і развіцця культур нацыянальных супольнасцей Беларусі стала традыцыя правядзення з 1996 г. фестываляў нацыянальных культур. Кожны з іх становіцца значнай з'явай у грамадскім і палітычным жыцці краіны. Яны даюць магчымасць розным народам нашай зямлі далучыцца да духоўнай культуры

сваёй нацыі, захаваць этнічную самасвядомасць і самабытнасць, адчуць сябе неад'емнай часткай народа беларускай дзяржавы.

Арганізатарамі і асноўнымі фундатарамі фестываляў з'яўляюцца Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, Гродзенскі аблвыканкам, Гродзенскі гарвыканкам.

I Рэспубліканскі фестываль адбыўся 24–26 мая 1996 г. у Гродне з прадстаўленнем мастацтва 11-ці нацыянальных супольнасцей Беларусі. За два гады, што папярэднічалі II Рэспубліканскаму фестывалю нацыянальных культур, узніклі чатыры новыя нацыянальна-культурныя аб'яднанні: Абшчына беларускіх эстонцаў, Беларускае грамадскае аб'яднанне грэкаў "Пелапанес", Мінскае гарадское таварыства грэчаскай культуры "Алкестыда", Беларускае рэгіянальнае аб'яднанне татарскай моладзі. Былі арганізаваны самадзейныя нацыянальныя калектывы пры Беларускім таварыстве немцаў "Відэргебурт", Саюзе палякаў у Беларусі, Рэспубліканскай абшчыне літоўцаў, Таварыстве Беларусь – Азербайджан "Габустан" і інш. Геаграфія II Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур стала значна шырэйшай — Гомель, Магілёў, Віцебск, Пінск, Полацк, Навагрудак, Ваўкавыск, Браслаў, Маладзечна, Свіслач, Воранава, Іўе, Смілавічы былі сведкамі праяў шматнацыянальнай творчай спадчыны. На рэгіянальных фестывалях, аглядах, святах, канцэртах, вечарынах нацыянальныя культурна-асветныя аб'яднанні ўдасканальвалі выканаўчае майстэрства, каб паспяхова выступіць на II Рэспубліканскім фестывалі нацыянальных культур, які адбыўся 22–24 мая 1998 г. у Гродне. На гэты раз на фестывалі выступілі больш за 25 мастацкіх калектываў ад 15 супольнасцей Беларусі. У праграму фестывалю арганічна ўпісалася свята паэзіі, прысвечанае 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Асаблівы каларыт фестывалю надало тое, што Гродна ў гэты час святкавала свой 870-гадовы юбілей. Кожнае нацыянальнае аб'яднанне ўручыла гораду свае падарункі, у выступленнях гучалі віншаванні жыхарам горада.

III Усебеларускі фестываль нацыянальных культур быў урачыста адкрыты 27 лютага 1999 г. вялікім канцэртам мастацкіх калектываў у Мінскім Палацы прафсаюзаў. У фестывалі ўдзельнічалі азербайджанцы, армяне, беларусы, габрэі, грэкі, карэйцы, латышы, літоўцы, малдаване, немцы, палякі, рускія, татары, башкіры, украінцы, цыганы, чувашы, эстонцы. Адбыліся абласныя фестывалі нацыянальных культур, фестываль мастацтва ўкраінцаў Беларусі, фестываль польскай песні ў Нясвіжы, Слоніме, Ашмянах, Міёрах, Шчучыне; адзначаліся малдаўскае свята вясны "Мэрцішор", карэйскі Новы год па месячным календары, эстонскае свята Янаў дзень, літоўскае — Дзень Міндаўгаса, азербайджанскае — Наўруз Байрам, татарскае — Сабантуй, габрэйскія святы Пурым, Ханука. Больш за дзесяць музычных і літаратурных вечарын, святаў паэзіі, прысвечаных Міцкевічу, Пушкіну правяло Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Рускае таварыства", старшыня якога Міхаіл Ткачоў пераклаў на рускую мову каля 70 твораў А. Міцкевіча, у тым ліку ўсе 46 яго санетаў. Тры пераклады былі

пакладзены на музыку беларускім кампазітарам М. Марозавай, і яны, такім чынам, зрабіліся здабыткам польскай, беларускай і рускай культур.

На мяжы тысячагоддзяў, 2–3 чэрвеня 2000 г., Гродна сустрэла шматлікія нацыянальныя культурна-асветныя аб’яднанні Беларусі. У фестывалі прынялі ўдзел каля 1000 прадстаўнікоў і гасцей 16 нацыянальных супольнасцей, якія прадэманстравалі свае традыцыі, абрады, нацыянальныя стравы. Святочныя падзеі і мерапрыемствы праходзілі на ўсіх традыцыйных пляцоўках у гістарычным цэнтры горада.

Госці з розных суседніх краін, сярод якіх — прадстаўнікі 12 пасольстваў, Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага Сходу, Савета Міністраў — прыбылі на свята з данінай павагі.

Акрамя самадзейных артыстаў удзел у фестывалі прынялі і вядомыя зоркі нацыянальных культур: народныя артысты з Татарстана — Іскандэр, Лейсан Хамітава, фальклорная група “Хамай”; з Варонежа (Расія) – народная артыстка Расійскай Федэрацыі Кацярына Маладцова, з Азербайджана – ансамбль “Тадж”, гаспадароў-беларусаў прадстаўлялі гурт “Палац”, Аляксандр Звяровіч, Іскуі Абалян, ансамбль харэаграфічных і музычных мініяцюр “Бліскавіца”.



*Танцуюць карэйцы*

2 чэрвеня ў гарвыканкаме Гродна прайшла прэс-канферэнцыя з удзелам кіраўніцтва горада і Гродзенскай вобласці, памочніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь С. Посахава, старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей А. Білыка, міністра культуры Рэспублікі Беларусь А. Сасноўскага, прадстаўнікоў пасольстваў Расіі, Польшчы, Літвы, Украіны, Эстоніі, Карэі, Ізраіля, Турцыі, мастака Генадзя Буралкіна, паэта Навума Гальпяровіча, пісьменніка Уладзіміра Ліпскага. Гаворка ішла аб падрыхтоўчай рабоце, гісторыі правядзення папярэдніх фестываляў, а таксама аб тым, што будзе адбывацца ў святочныя дні.

Пачаўся III Усебеларускі фестываль з урачыстага адкрыцця сквера “Сяброўства” па вуліцы Падольнай, які быў закладзены ў цэнтры Гродна, непадалёку ад Нёмана, у гонар фестывалю як сімвал міжнацыянальнай згоды. “У людзей усіх нацыянальнасцей дрэва спакон веку лічылася сімвалам жыцця, — падкрэсліў старшыня Гродзенскага гарвыканкама Анатоль Пашкевіч. — Няхай з кожным днём набіраюць сілу і мацнеюць гэтыя маладыя дрэўцы, як мацнее дружба народаў, якія насяляюць нашу родную Беларусь”.

Ад гасцініцы “Беларусь” да Савецкай плошчы прайшло ўрачыстае шэсце. Вельмі ярка выглядалі татары і башкіры ў футравых малахаях на конях, карэйцы з веерамі і барабанамі, грэчанкі ў белых туніках, рускія прыгажуні ў расшытых жэмчугам какошніках, “гарно співали” ўкраінцы.

У 18.30 на Савецкую плошчу выехалі на конях рыцары ў шыкоўных аксамітавых плашчах. Адзін з коннікаў — Давід Гарадзенскі, які і загадаў фестывалю — быць!

Адразу пасля афіцыйнага адкрыцця фестывалю на сцэнічную пляцоўку Савецкай плошчы выйшлі прадстаўнікі 16 нацыянальных культурна-асветных аб’яднанняў — галоўных удзельнікаў свята. Па сцэнарыю мастацкага кіраўніка фестывалю П. Гуда кожнай дэлегацыі была прадастаўлена магчымасць выступіць у гала-канцэрце з праграмай на 15 хвілін. Творчы патэнцыял, жаданне самадзейных артыстаў як мага больш паказаць і раскрыць каларыт сваёй нацыянальнай культуры, добразычлівасць гледачоў, — усё гэта прадоўжыла гала-канцэрт амаль на дзве гадзіны, і замест поўначы ён скончыўся а 2 гадзіне ночы.

Кожны нумар адлюстроўваў нацыянальную культуру і традыцыі. Гэта былі грэчаскі танец “сіртакі”, карэйскія танцы з веерамі і барабанамі, рускія песні ў выкананні Хору імя А. Нікіцінай і ансамбля “Гармонія”, выступленні літоўскага фальклорнага ансамбля з в. Пеляса, ансамбля армянскага танца “Эрэбуні”, азербайджанскага вакальнага дуэта “Ты і я”, ансамбля нямецкай песні “Лерхен”, цыганскага тэатра-студыі “Ромалэ”, выканаўцаў малдаўскай песні Антаніны Валько і Мікалая Барынскага, дзіцячага ансамбля ўкраінскага танца “Барвінак”, ансамбля польскай песні “Крэсавянка”, ансамбля габрэйскага танца “Махоль”, ансамбля татарскага танца “Чышма”.

Другі дзень фестывалю адкрыўся ў Новым замку фотавыставай “Гродна на мяжы тысячагоддзяў”. Сваё асабістае бачанне старажытнага горада, прыгажосць і непаўторнасць лепшых яго краявідаў прадставілі ў сваіх работах фотамастакі з Беларусі, Польшчы і Літвы. Пераможцам конкурсу на самую лепшую паштоўку з выявамі Гродна Генрыку Рагазінскаму і Віктару Волкаву былі ўручаны прызы. Грашовыя прэміі яны перадалі дачцэ свайго беларускага калегі Уладзіміра Біліды, які памёр тры гады таму ў час пленэру ў Польшчы. Г. Рагазінскі, фотамастак з Беластока, выкарыстоўвае крышталі смалы афрыканскай акацыі (гуміарабік) для самаробнай фотаэмульсіі, якую наносіць на паперу. Спецыяльна падрыхтаваны негатыў і святло нараджаюць цуд, які называецца фотаграфікай, што захапляе чорна-белымі графічнымі штрыхамі. Аўтар падараваў фестывалю камплект графічных паштовак.

У 11.30 адбылося адкрыццё дэкаратыўнага пано, прысвечанага фестывалю. Гэта натхнёная і карпатлівая работа маладога гродзенскага мастака Аляксандра Сільвановіча, на ім — 17 птушак, якія адрозніваюцца адна ад другой толькі нацыянальным арнаментам, у адным доме — Беларусі, і лічба 2000.

Арганізатары заключнага гродзенскага этапа фестывалю захавалі ўсё лепшае з папярэдніх святаў. І галоўнае — нацыянальныя падворкі, якія размясціліся ў старым горадзе. На чатырнаццаці падворках спявалі, танцавалі, дэманстравалі культуру

свайго народа, яго звычаі, касцюмы, нацыянальныя рамёствы і стравы, расказвалі пра з’яўленне і жыццё адпаведнай нацыі на тэрыторыі Беларусі яе прадстаўнікі. У гэты ж час на цэнтральных пляцоўках горада праходзілі абласное свята харэаграфічнага мастацтва “У карагодзе дружбы”, фальклорнае свята “Спадчына нашай маці”, конкурс нацыянальнага анекдота, маладзёжная праграма “Беларускі фольк-мадэрн”. Цікавым было свята “Мода без межаў”. На вольным паветры апошнія мадэлі гродзенскіх швейных і трыкатажных прадпрыемстваў дзяржаўнай і недзяржаўнай форм уласнасці прадэманстравалі манекеншчыцы школы “Юні-арт” пры Гродзенскім дзяржаўным універсітэце і агенцтва мадэляў “Мілена”. Для прызоў былі заказаны арыгінальныя вазы і кампазіцыі, якія выканала выдатная мастачка шклозавода “Нёман”, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Людміла Мягкова.

Свята закончылася “кітайскім” феерверкам.

***Уладзіслаў Мантвідас,***
*дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур*

## **НЕМЦЫ:** «ВІДЭРГЕБУРТУ» — 10 ГОД

Рух за адраджэнне нямецкай культуры ў Беларусі пачаў Аляксандр Майснер. Ён жа 24 лістапада 1990 г. і заснаваў у Мінску самае першае таварыства немцаў. Зрабіў ён гэта з самых светлых памкненняў, але адначасова — з пратэсту супраць таго рэжыму, які доўгія гады трымаў нашы народы ў ізаляцыі адзін ад аднаго, ад вытокаў культуры і побыту нашых народаў.

Афіцыйна Цэнтр нямецкай культуры (ЦНК) “Відэргебурт” (“Адраджэнне”) быў зарэгістраваны 27 мая 1992 г. Як і ў першых родных аб’яднаннях у краінах СНД нашым сімвалам стала эмблема з выявай цудатворнай птушкі Фенікс, якая ў антычнай міфалогіі з’яўлялася ўвасабленнем вечнага абнаўлення і адраджэння. Асноўны напрамак дзейнасці ЦНК — культурна-асветны.

На шляху першапраходцаў не ўсё было бясхмарным. Каб дапамагчы немцам захавацца як этнасу, яны вымушаны былі прайсці не толькі праз хваробы росту. Апрача ўсяго іншага, нам давялося зрабіць крок назад і з рэспубліканскай арганізацыі стаць гарадской, бо для перарэгістрацыі нам трэба было мець свае арганізацыі ў большасці абласцей, а мы мелі іх толькі ў Віцебску, Бабруйску, Гомелі і Мінску. Цяпер нам бачна тэндэнцыя росту колькасці немцаў, якія пражываюць у Беларусі. Калі паводле перапісу 1989 г. іх было 3,5 тыс. чалавек, то праз 10 гадоў — 4,8 тыс. чалавек. Па нашых назіраннях, гэта адбываецца за кошт міграцыі немцаў з Казахстана і Сярэдняй Азіі. Але таксама і таму, што многія перасталі баяцца называць сябе немцамі. Значыць, хутка з’явяцца нашы аб’яднанні і ў іншых рэгіёнах краіны.

Наш невялікі астравок нямецкай культуры расце і ўмацоўваецца, вядома ж, не без дапамогі ўладаў Беларусі і Германіі. Наладжаны сувязі з роднаснымі арганізацыямі. З краін СНД і Германіі прыходзяць газеты і часопісы. Стаўшы

членам Міжнароднага саюза нямецкай культуры ў Маскве, мы пачалі атрымоўваць адтуль літаратуру пра гісторыю і традыцыі немцаў на тэрыторыі былога СССР, вельмі неабходную, каб зразумець, хто мы ёсць.

Вельмі вострай праблемай немцаў Беларусі з'яўляецца авалоданне роднай мовай. Сітуацыя ўскладняецца тым, што немцы пражываюць выключна ў дысперсным стане. Таму сярод сваіх задач на першае месца мы паставілі вывучэнне "мутэршпрахэ", хаця з-за цяжкасцей у нашым побыце не ва ўсіх ёсць час, каб сур'ёзна займацца мовай.

Амаль з першых дзён існавання ЦНК створаны хор нямецкай песні, які неаднаразова ўдзельнічаў у агульнагарадскіх мерапрыемствах. Радасна глядзець і слухаць, з якім захапленнем спяваюць і маладыя, і сталыя людзі ў нацыянальных касцюмах. У рэпертуары ансамбля "Зонэнштраль" ("Сонечны прамень") пераважаюць класічныя творы. Самадзейныя артысты былі адзначаны граматамі лаўрэатаў Мінскага гарадскога і Усебеларускага фестываляў нацыянальных культур. Набірае творчага вопыту ансамбль нашай маладзёжнай групы — дзеці вакол нас падраслі і таксама жадаюць прызнання. Вядома ж, мы падтрымліваем іх, як можам.



*Нямецкі вакальны ансамбль «Зонэнштраль («Сонечны прамень») на запісе ў мінскім касцёле святых Сымона і Алены*

Кожны год да нас у госці прыязджае пасыльны расійскіх немцаў — аркестр камернай музыкі "Франц Лефорт-Ансамбль". А нядаўна мы пазнаёміліся з творчасцю ансамбля нямецкай народнай песні з Тальяці.

Гордасцю "Відэргебурта" з'яўляецца альманах "Ві гейс'с?" ("Як справы?"). Прыемна было прачытаць станоўчую рэцэнзію на наша выданне ў газеце "Літаратура і мастацтва". Цяпер мы пачалі работу над трэцім выпускам альманаха.

З'яўляючыся сёння гарадскім аб'яднаннем, мы, тым не менш, дзякуючы нашаму сталічнаму месцазнаходжанню, па-ранейшаму выконваем ролю рэспубліканскага аб'яднання на такіх грандыёзных мерапрыемствах, як Усебеларускі фестываль нацыянальных культур у Гродне. Аб'ядноўваючы творчыя сілы ўсіх немцаў Беларусі, мы імкнемся там годна прадставіць культуру сваёй нацыі. Асноўныя нашы творчыя і матэрыяльныя сілы скіраваны там на арганізацыю нямецкага падворка. Так з'явіліся сёлета ў Гродне і "брэменскія музыканты", і барон Мюнхгаўзен, і "ганзейскія купцы", і дамы ў сукенках XIV–XV стст. Яшчэ адной навацыяй на трэцім фестывалі стаў вясёлы лялечны спектакль, які ілю-

страваў тэксты народных песень. Сярод прызоў для пераможцаў у гульнях і віктарынах былі самадзейныя паштоўкі з партрэтамі Баха, Гётэ, Дзюрэра, відамі Германіі. У заключэнне прысутныя частаваліся традыцыйным півам і стравамі нямецкай кухні, добра падрыхтаванымі гродзенскімі кулінарамі. Сярод удзячных гледачоў нашага падворка былі і гродзенскі губернатар А. Дубко, і мэр Гродна А. Пашкевіч, і міністр культуры А. Сасноўскі, і старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей А. Білык, іншыя шаноўныя госці.

Значнае месца ў дзейнасці нашага Цэнтра займае пашырэнне гістарычных ведаў, павагі да мінулага свайго народа — асабліва сярод дзяцей. Мы імкнемся стварыць атмасферу добразычлівасці ва ўзаемаадносінах паміж нашымі землякамі і аднадумцамі. На жаль, для гэтага ў нас няма свайго кутка — хаця б невялікага пакоя. Як і дзесяць гадоў таму гэта застаецца для нас недасягальнай марай, хаця пытанне пра ўласнае памяшканне мы ставім увесь час і на самых розных узроўнях. А тое, што нацыянальныя грамадскія аб’яднанні прыносяць і будуць прыносіць карысць не толькі сваім сябрам, але і дзяржаве ў цэлым, — неаспрэчны факт.

Актыўных людзей у нас нямала. Праўда, не ўсе яшчэ паспелі праявіць сябе. Мы жадаем, каб кожны сябра ЦНК знайшоў сабе справу па душы. Дзеля гэтага мы чакаем дапамогі ад асоб, якія маюць нямецкія карані і цікавяцца гісторыяй і культурай сваіх продкаў. А іх у Мінску каля трох тысяч. Пішыце нам па адрасу: 220053, а/с 21, Т. І. Горбач.

***Таццяна Горбач**, кіраўнік Цэнтра нямецкай культуры “Відэргебурт”*

## **ПАЛЯКІ:** КНІЖКА МІНСКАГА КАРЭНСПАНДЭНТА

Амаль у кожным нумары гродзенскай газеты “Głos znad Niemna”, якая з’яўляецца органам Саюза палякаў у Беларусі, публікуюцца артыкулы і карэспандэнцыі, падпісаныя Вальдэмарам Прэцкайлам. Вопытны журналіст, раней ён пісаў на рускай і беларускай мовах, стаў аўтарам некалькіх кніг пра грамадска-палітычнае жыццё і спорт. А потым успомніў мову свайго дзяцінства, якое прайшло ў вёсцы Куляўцы Шчучынскага раёна. І вось — першы значны вынік: кніжка “Nie rzucim ziemi, skąd nasz ród = Зямлі не кінем, скуль наш род”, якая толькі што выйшла ў Мінску ў выдавецтве “Каўчэг” з дапамогай Польскага інстытута ў Мінску. Названа яна першым радком верша Марыі Канапніцкай “Прысяга”, што ў беларускім кантэксце гучыць некалькі двухсэнсоўна.

У кнігу Вальдэмара Прэцкайлы ўвайшлі пераважна матэрыялы, якія ўжо друкаваліся ў “Głosie znad Niemna”. Гэта вынік шматлікіх журналісцкіх паездак па Беларусі, сустрэч з людзьмі, адданымі справе нацыянальнага адраджэння. Тэматыка сабраных матэрыялаў вельмі разнастайная: тут і польскія вершы Янкі Купалы, і юбілей Тадэвуша Касцюшкі, і пераклад на беларускую мову паэмы Адама Міцкевіча “Пан Тадэвуш”, зроблены ў турме Пятром Бітэлем (у кніжцы ён чамусьці названы Бартэлем), і прабыванне ў Мінску Юзафа

Пілсудскага, і малюнкі мастака-лекара Аляксандра Зубрыцкага, і дзейнасць мастацкіх калектываў. Многа ўвагі ўдзелена рэлігійнаму жыццю. Танальнасць аўтарскага апавядання то шчымліва лірычная (там, дзе ён ва ўспамінах гаворыць пра маці), то палемічная (дзе ён спрачаецца з газетамі, якія ставілі пад сумненне існаванне польскай супольнасці ў Беларусі), то саркастычная ("Стрыптыз у… касцёле"). Змешчанае ў канцы кніжкі апавяданне "Орлік" сведчыць, што Вальдэмар Прэцкайла мае літаратурныя здольнасці.

Чытаючы першы польскі зборнік мінскага аўтара, у адных выпадках хочацца падтрымаць яго (напрыклад, там, дзе ён абураецца нізкім, толькі раённым рангам і, адпаведна, узроўнем зарплаты ў Музеі Адама Міцкевіча ў Навагрудку), у іншых — палемізаваць з ім. Напрыклад, нелагічна будзе лічыць католікаў у Дуброве пад Мінскам толькі палякамі, бо гэта пераважна нашчадкі уніятаў, якія ў 30-х гг. мінулага стагоддзя перайшлі не ў праваслаўе, а ў каталіцкае веравызнанне. Не верыцца і ў тое, што ксёндз Чарняўскі ў Вішневе прымушае людзей маліцца па-беларуску, бо ён проста заклікае вернікаў рабіць гэта на мове, для іх зразумелай.




У цэлым жа ў Вальдэмара Прэцкайлы атрымалася шырокая панарама дзейнасці польскай нацыянальнай супольнасці ў Беларусі, праяў яе шматграннага культурнага жыцця.

***Гуд Радашковіцкі***

## **РУСКІЯ:** ДАЛУЧАНАСЦЬ ДА КЛАСІЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

Наша Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне (РГА) "Рускае таварыства" было створана ў верасні 1994 г. у Брэсце. Яно мела аддзяленні — Брэсцкае, Гродзенскае і Мінскае. Мінская гарадская суполка "Русь" не ўвайшла ў склад "Рускага таварыства".

У маі 1999 г. у Брэсце было перавыбрана кіраўніцтва, абраны новы старшыня, а юрыдычны адрас перанесены ў Мінск. У ходзе перарэгістрацыі "Рускага таварыства" ў верасні 1999 г. былі створаны яшчэ два аддзяленні: Віцебскае і Гомельскае, вядзецца работа па стварэнню Магілёўскага аддзялення.

Наша таварыства разам з іншымі грамадскімі нацыянальнымі аб'яднаннямі (такіх сёння — 16) уваходзіць у Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур Рэспублікі Беларусь.

Якія ж мэты і задачы РГА "Рускае таварыства"? Гэта:

• Вывучэнне і прапаганда рускай культуры ва ўсёй яе разнастайнасці — праз літаратуру, паэзію, музыку, песенную творчасць, жывапіс і г. д.

• Выхаванне патрыятызму і любові да сваёй бацькаўшчыны, да веры продкаў — праваслаўя, гісторыі, традыцый і звычаяў свайго народа.

• Адраджэнне рускай нацыянальнай самасвядомасці.

Цяпер РГА "Рускае таварыства" мае тры творчыя калектывы: у Мінску — Рускі хор імя А. Нікіцінай, у Гродне — вакальная група "Гармонія", у Брэсце — Рускі хор. Апошні калектыў нядаўна створаны, яму патрэбны прафесійны рост.

Рускі хор імя А. Нікіцінай — даволі моцны калектыў. Ён адзначаны прэміяй-грантам на II Рэспубліканскім фестывалі нацыянальных культур у Гродне (1998), лаўрэат гэтага фестывалю.

Творчыя калектывы іграюць вялікую ролю, бо праз песню (народную і класічную), праз паэзію і іншыя праявы народнага духу можна данесці да людзей культуру свайго народа, інакш грамадскае аб'яднанне ператвараецца ў мёртвую структуру, як бы прыгожа яно ні менавалася — "Рэспубліканскае", "Міжнароднае", "Сусветнае" і г. д.



*Выступленне Рускага хору імя А. Нікіцінай на сцэне Цялушскай школы Бабруйскага раёна*

Ёсць у "Рускім таварыстве" выдатныя спевакі, што цудоўна выконваюць рамансы на вершы Пушкіна, Баратынскага, Лермантава, Цютчава, Кальцова, Фета, Нікіціна, Буніна, Міцкевіча. Ёсць знакаміты кампазітар М. Марозава, якая сваёй музыкай яднае і рускую, і беларускую, і польскую культуры.

Мне прыемна, што на мае пераклады А. Міцкевіча М. Марозавай напісана цудоўная музыка: "Я нявольнік, рад няволі…", "Сон", "Успамін". Рамансы "Я нявольнік, рад няволі…" і "Сон" у выкананні народнай артысткі Беларусі Наталлі Рудневай атрымалі высокую ацэнку і сярод слухачоў, і ў прафесійным кампазітарскім асяроддзі, і на Беларускім радыё; яны зрабіліся ўжо прыналежнасцю і рускай, і польскай, і беларускай культур.

"Рускае таварыства" актыўна ўдзельнічала ва ўсіх трох Рэспубліканскіх фестывалях нацыянальных культур у Гродне (1996, 1998, 2000). І калі на першым фестывалі мы вучыліся ад украінскіх калектываў (а ў іх заўсёды ёсць чаму павучыцца), то на двух апошніх у нас практычна не было канкурэнтаў.

У 1997–2000 гг. "Рускае таварыства" прыняло ўдзел у святкаванні 200-гадовых юбілеяў Пушкіна і Міцкевіча ў Брэсце, Гродне, Мінску, Маладзечне,

Пушкінагор'і, Варонежы, Волагдзе, Маскве. У 2000 г. мы адзначылі 200-гадовы юбілей знакамітага рускага паэта Я. Баратынскага.

За тры гады (1997–2000) з маім удзелам і з удзелам іншых членаў "Рускага таварыства" (І. Барысава, М. Печанка) прагучала больш за 20 радыёперадач (15 — прысвечаных Пушкіну, 5 — Міцкевічу) па Беларускаму радыё і адна перадача на "Радыё Расіі" (пад назвай "Дзве Русі"). На нашы перадачы прыйшлі водгукі не толькі з усёй Беларусі, але і са шматлікіх гарадоў Расіі — Архангельска і Архангельскай вобласці, Растова-на-Доне, Масквы, Новакузнецка і нават з Курыл!



*Аўтар артыкула ўскладае кветкі на магілу ўнучкі А. С. Пушкіна Наталлі Варанцовай-Вельямінавай*

У маі 1999 г. наша дэлегацыя ўдзельнічала ў Міжнародным форуме "Пушкін і руская культура за мяжой", прысвечаным 200-годдзю з дня нараджэння А. С. Пушкіна, які адбыўся у Расіі, у Пушкінагор'і. Мы прывезлі адтуль багата ўражанняў ад сустрэч са сваімі суайчыннікамі, што пражываюць ва ўсіх былых саюзных рэспубліках, ад сустрэч з Пушкіным у ягоных Міхайлаўскім, Трыгорскім, у Святагорскім манастыры, дзе спачывае яго прах. Мы прывезлі некалькі жменяў зямлі з гэтых святых для кожнага чалавека месцаў і рассыпалі яе ў дзень нараджэння паэта на магіле яго ўнучкі — Наталлі Варанцовай-Вельямінавай, пахаванай у в. Цялуша Бабруйскага раёна, на магілах І. Нікіціна і А. Кальцова ў Варонежы. Кальцоў быў не толькі сучаснікам Пушкіна, але і сустракаўся з ім. Пушкін высока адзначыў паэта-самародка з Варонежа. Пасля смерці Пушкіна Кальцоў напісаў выдатны верш "Лес" і прысвяціў яго Пушкіну.

У гэтым, 2000 г., 6 чэрвеня — у дзень нараджэння Пушкіна, мы рассыпалі зямлю, прывезеную са Святагорскага манастыра, каля помніка Пушкіну ў Мінску, усклалі кветкі. Гучалі вершы Пушкіна і пра Пушкіна як на рускай мове, так і на беларускай. А ўвечары адбылася цудоўная музычна-паэтычная вечарына ў Нацыянальнай бібліятэцы, дзе гучалі рамансы на вершы паэта. На другі дзень адбылася вечарына ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна.

Пабывалі мы, як і ў мінулым годзе, у в. Цялуша, толькі гэтым разам без Рускага хору. Мы прывезлі для пушкінскага музея, адкрытага ў мінулым годзе ў Цялушскай школе, дзве унікальныя кнігі: "Предложено жить 1836 г." А. Бітава і "Факсимильное издание произведений А. С. Пушкина. Каталог"

(выдавецтва МДУ), а таксама ліст музею рэктара МДУ А. Садаўнічага. “Рускае таварыства” і Культурна-асветны кніжны цэнтр, створаны на яго базе, апякуюцца музеем. Мы дамовіліся з буйнымі кніжнымі выдавецтвамі Расіі аб камплектаванні бібліятэкі музея Цялушскай школы рэдкімі кнігамі Пушкіна і пра Пушкіна.

Мы ганарымся тым, што на нашай беларускай зямлі ёсць яго, Пушкіна, генетычныя і духоўныя карані.

У 1999 г. Рускі хор імя А. Нікіцінай даў больш за 10 канцэртаў — у Брэсце, Гродне, Мінску, Маладзечне і ў раёнах. І дзе б мы ні выступалі, у вялікіх ці малых гарадах, раённых цэнтрах ці ў маленькіх вёсачках, паўсюль нас цёпла сустракалі, тым больш што ў рэпертуары хору ёсць песні, запальныя і лірычныя, на рускай, беларускай, украінскай мовах. І асабліва ўдзячная аўдыторыя — дзеці з іх непасрэднасцю, шчырасцю і чысцінёй душы.

У верасні бягучага года я прыняў удзел у цікавым літаратурным свяце, прысвечаным 195-годдзю з дня нараджэння стрыечнага брата Пушкіна — Дз. Веневіцінава (1805–1827), якое адбывалася ў яго маёнтку пад Варонежам, дзе цяпер адчынены музей.

Адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці мае вялікае значэнне для кожнай нацыі. І калі гэтае адраджэнне адбываецца, выйграюць усе нацыі, усе народы: з нацыянальных культур, як з крыніц — і рэкі, і азёры, і моры, і сусветны акіян — усё адраджаецца, усё набывае паўнату зямнога і неўміручасць духоўнага жыцця.

***Міхаіл Ткачоў***,
*старшыня Рэспубліканскага грамадскага аб’яднання “Рускае таварыства”*
*Пераклад з рускай* ***Вольгі Мазуравай***

## ТАТАРЫ І БАШКІРЫ:
## «ЧЫШМА» ЗАПРАШАЕ ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Міжнародны фонд развіцця татара-башкірскай духоўнай спадчыны “Чышма” быў створаны ў чэрвені 1998 г. і аб’ядноўвае татараў і башкіраў, якія пражываюць ў Рэспубліцы Беларусь і Расіі (Фонд мае сваіх прадстаўнікоў у Татарстане, Башкортастане і іншых рэгіёнах Расіі).

Галоўнымі мэтамі і задачамі Фонду “Чышма” з’яўляюцца:

• замацаванне сяброўскіх зносін паміж народамі, ажыццяўленне дзейнасці, накіраванай на адраджэнне духоўных, нацыянальных, культурных каштоўнасцей і традыцый татарскага і башкірскага народаў;

• усталяванне сувязей з суайчыннікамі за мяжой для арганізацыі і правядзення сумесных мерапрыемстваў па развіццю культурных каштоўнасцей народаў;

• арганізацыя аздараўлення дзяцей за мяжой;

• развіццё культурных, сямейных, эканамічных, навуковых і іншых абменаў паміж Рэспублікай Беларусь і іншымі краінамі;

• абарона правоў і законных інтарэсаў членаў дыяспары і Фонду;

• аднаўленне гістарычных і архітэктурных помнікаў татараў у Рэспубліцы Беларусь, стварэнне нацыянальнага музея гісторыі і культуры;

• стварэнне і развіццё ўласных сродкаў масавай інфармацыі.

Дзверы Фонду адчынены для кожнага грамадзяніна, які падзяляе статутныя мэты і задачы незалежна ад нацыянальнасці, веравызнання, месца пражывання і нараджэння.

На дадзены момант створаны Культурны цэнтр "Чышма", пры ім працуюць нацыянальны вакальна-харэаграфічны ансамбль "Чышма", музычныя студыі-класы гітары, баяна, духавых народных інструментаў (курай). Фарміруецца нацыянальная бібліятэка і фонавідэатэка.

Ладзяцца і ўмацоўваюцца цесныя кантакты з дыяспарамі за мяжой.

Наладжаны дзелавыя сувязі з міністэрствамі і ведамствамі Рэспублік Татарстан і Башкортастан, іх Нацыянальнымі бібліятэкамі. Разглядаецца пытанне аб адкрыцці ў Рэспубліцы Беларусь філіялаў падрыхтоўчых аддзяленняў для абітурыентаў прэстыжных ВНУ Татарстана і Башкортастана, філіяла Татарскага рэспубліканскага вучылішча культуры пры Культурным цэнтры "Чышма".



*Татарска-башкірская «Чышма» сабралася на свой Сабантуй*

Пра адну са спраў Фонду "Чышма" нам хочацца расказаць падрабязней. У маі гэтага года ў Беларусі, якая першая прыняла на сябе напад ворагаў у 1941 г., праходзілі мерапрыемствы, прысвечаныя 55-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Актыўнымі ўдзельнікамі гэтых памятных падзей былі Фонд развіцця татара-башкірскай духоўнай спадчыны "Чышма" (г. Мінск: прэзідэнт Фонду — Іран Багданаў, віцэ-прэзідэнт — Валерый Яляеў, старшыня праўлення Фонду — Джон Нігматулін, дырэктар культурнага цэнтра — Нарыман Гайфулін, актывісты — Халіда Стромух, Кірыл Гром) і Казанскі Татарскі Дзяржаўны Маладзёжны тэатр на чале з мастацкім кіраўніком, рэжысёрам гэтага тэатра, заслужаным дзеячам мастацтваў Рэспублікі Татарстан Фарытам Хабібуліным. 4–7 мая тэатр паказаў гледачам Гродна і Мінска на татарскай мове спектакль паводле п’есы вядомага татарскага пісьменніка Ш. Ракіпава "Зорныя ночы" аб лётчыцах 46 авіяцыйнага Таманскага гвардзейскага палка. У цэнтры спектакля — вобразы дочак татарскага народа Магубы Сыртланавай і Вольгі Санфіравай, якая загінула і пахавана ў Беларусі (Гродна). Пасля кожнага

спектакля адбываліся незабыўныя сустрэчы з татарамі і башкірамі — членамі Фонду “Чышма”, ветэранамі, якія былі вельмі ўдзячны артыстам за выдатную ігру, за тое, што ўпершыню за 600 год пражывання татараў на зямлі Беларусі яны пачулі са сцэны родную татарскую мову. Сустрэчы заканчваліся песняй “Туган тэль” у выкананні артыстаў Маладзёжнага тэатра і ўдзячных гледачоў.

Эстафету, прысвечаную 55-годдзю Перамогі, прадстаўнікі Татарстана і Фонду “Чышма” працягнулі ў горадзе-герої Брэсце, усклаўшы вянкі да Вечнага агню на тэрыторыі Мемарыяла “Брэсцкая крэпасць — герой”.

На ўрачыстым шматтысячным мітынгу, што адбыўся ў Брэсцкай крэпасці, Ф. Хабібулін ад імя народа Татарстана і Прэзідэнта Рэспублікі Татарстан Мінцімера Шайміева павіншаваў прысутных ветэранаў, гасцей з краін СНД і далёкага замежжа са святам Перамогі і падзякаваў беларускаму народу і кіраўніцтву краіны за іх адданасць ідэалам братэрства, сяброўства і захаванне памяці аб тых, хто аддалі жыццё ў барацьбе з фашызмам.

Пасля мітынга каля Вечнага агню ва ўрачыстых абставінах ветэранам вайны — членам Фонду “Чышма” С. Абдуліну, А. Гарыфуліну, Н. Мусіну, Ф. Нуґуманаву, Я. Гайфуліну і іншым была ўручана спецыяльна выдадзеная Фондам да юбілею Перамогі кніга “Навекі разам” — аб сынах і дочках татарскага і башкірскага народаў, якія абаранялі зямлю Беларусі ад нацыстаў.

Завяршылася свята сумеснымі канцэртамі вакальнага ансамбля “Чышма” і артыстаў Казанскага Татарскага Дзяржаўнага Маладзёжнага тэатра ў сценах Брэсцкай крэпасці і ў гарадскім парку культуры.

Бясспрэчна, усё гэта садзейнічала замацаванню ўзаемаразумення і сяброўства паміж народамі Татарстана і Беларусі, далейшаму развіццю кантактаў татарскай дыяспары Беларусі са сваёй гістарычнай радзімай.

***Іран Багданаў**, кіраўнік Фонда “Чышма”*

*Пераклад з рускай **Вольгі Мазуравай***

## ЦЫГАНЫ: «ДЗЕЦІ СОНЦА» МАЮЦЬ СВАЙГО ПРЭЗІДЭНТА І ПАРЛАМЕНТ

Сёння ў нашай краіне дзейнічаюць Грамадскае аб’яднанне “Беларуская цыганская дыяспара”, якое ўзначальвае Алег Казлоўскі (з сядзібай у пасёлку Бараўляны пад Мінскам), і Беларуская асацыяцыя цыганоў “Рома” (з сядзібай у пасёлку Калодзішчы), кіраўніком (баронам — ад цыганскага слова “баро”, што значыць “вялікі”) якой выбралі тры гады таму назад мяне. Усяго на тэрыторыі Беларусі сёння пражывае больш за 60 тысяч “ромаў”, або “ромалаў”, як мы называем самі сябе. Каля 90 працэнтаў з іх праваслаўнага веравызнання, каля 10 — каталіцкага. Першыя карыстаюцца кірылічным алфавітам, другія — лацінскім. Больш за ўсё нас у Гомельскай вобласці (Калінкавічы, Васілевічы, Гомель), а таксама на Брэстчыне, пад Мінскам. Тут мы аселі пасля хрушчоўскага Указа аб спыненні вандроўнай дзейнасці цыган 1962 г. На жаль, амаль

палавіна нашага насельніцтва пражывае ў зоне чарнобыльскага забруджання. Ёсць у нас і іншыя праблемы. Найперш — нізкі ўзровень пісьменнасці, адсутнасць навуковай эліты. Адзіны цыган-гісторык, Ваня дэ Жыла-Каханоўскі, сёння пражывае ў Францыі. Праўда, родам ён з Беларусі, з Брэста. Калі мы нядаўна, 25–28 ліпеня, былі ў Празе на V кангрэсе Сусветнага цыганскага саюза, ён увесь час гарнуўся да нас, распытваў пра зямлю сваіх продкаў.

А цяпер — пра сам кангрэс. Яму папярэднічала вялікая работа. Менавіта па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам беларускіх "дзяцей сонца" быў створаны ўсходні блок, куды ўвайшлі Расія, Беларусь, Украіна, Літва, Латвія і Эстонія. Таму і на кангрэсе мы маглі праводзіць сваю лінію, сваю палітыку. Мы — гэта Алег Казлоўскі, яго намеснік Артур Гоманаў, віцэ-прэзідэнт нашай асацыяцыі "Рома" Уладзімір Уладзіміравіч Мацвееў і аўтар гэтых радкоў. Першы з іх быў выбраны членам парламента, другі — уключаны ў камісію па Халакосту, трэці — у камісію па сацыяльных пытаннях і эканоміцы, а я ўвайшоў у склад Канстытуцыйнага суда.



*Румынскі кароль (злева) і беларускі барон на Кангрэсе ў Празе*

На кангрэсе быў выбраны першы прэзідэнт Сусветнага цыганскага саюза. Ім стаў доктар Эміль Шчука (дарэчы, ён днямі прыязджаў у Мінск на вяселле свайго сына). Штаб-кватэрай Міжнароднага цыганскага парламента будзе Вена. На кангрэсе разглядалася таксама пытанне аб стварэнні Еўрапейскага універсітэта з выкладаннем на цыганскай мове нашай гісторыі, этналогіі і культуры. Праблема адукацыі асабліва актуальная для Беларусі, дзе да сённяшняга дня няма ніводнай цыганскай школы і нават ніводнага цыганскага класа. Толькі 20 працэнтаў нашых дзяцей ходзяць у школы і дашкольныя ўстановы.

І яшчэ адно балючае пытанне. Як вядома, фашысцкі рэжым жорстка праследаваў цыганоў з-за іх "арыйскага" (з Індыі) паходжання. Пасля апошняй сусветнай вайны ў Беларусі засталося не больш аднаго працэнта іх даваеннага насельніцтва. У Брэсце знаходзіўся адзіны ў Еўропе канцэнтрацыйны лагер для цыганоў. Сёння нам вядома шэсць месцаў масавых расстрэлаў нашых супляменнікаў. Таму ў нас востра стаіць праблема матэрыяльных кампенсацый ахвярам Халакосту і іх нашчадкам. Сума, выдзеленая Беларусі толькі нямецкім фондам "Халакост", роўна 348 мільёнаў долараў ЗША. Але атрымаць іх вельмі няпроста. Ёсць тут і аб'ектыўныя прычыны: будучы вандроўнікамі, "ромалы"

амаль не ведалі, што такое пашпарт. Чамусьці нам, не давяраючы, чыняць перашкоды і ў стварэнні адпаведнага фонду. Вядома, мы можам стварыць яго і за межамі нашай краіны. Але тады будуць згублены значныя сумы. А іх можна было б выкарыстаць на развіццё адукацыі, увекавечванне памяці ў месцах масавых рэпрэсій, стварэнне для цыганоў новых рабочых месцаў.

Беларусы павінны болей ведаць пра цыганоў, пра іх складаную гісторыю. Тады і знікне недавер паміж намі, наладзіцца ўземнае разуменне.

***Уладзімір Мацвееў****, барон Беларускай асацыяцыі цыганоў "Рома"*

*Ад рэдакцыі.* Гэта сапраўды дзіўна, што чыняцца перашкоды ў стварэнні фонду дапамогі ахвярам Халакосту і іх нашчадкам. Нібы нашай дзяржаве не патрэбны валютныя сродкі, адлічэнні… Што ж датычыцца месцаў пахаванняў цыганоў у час Другой сусветнай вайны, то да вядомых хочацца дадаць яшчэ адно — каля вёскі Палушы Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці. Сюды прыгналі і расстралялі вялікую групу цыганоў і габрэяў, відаць, прывезеных на суседнюю станцыю Гудагай з нейкай еўрапейскай краіны.

## **ЧУВАШЫ:** ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ ТАКІ НАРОД?

На правым берагу Волгі, у міжрэччы Суры і Свіягі, знаходзіцца старажытная і заўсёды юная зямля — Чувашыя. Цудоўныя яе ціхія, аточаныя вербамі рэкі, яе светлыя і вясёлыя дубровы, бясконцы ручнік роўных, з любоўю дагледжаных палёў. Адметнае і непаўторнае аблічча маляўнічым чувашскім вёскам надае прастора і багацце зялёнай прыроды.

Радзіма героя грамадзянскай вайны, славутага палкаводца В. Чапаева і героя нашага часу лётчыка-касманаўта А. Нікалаева шчодрая на прыродную красу, багатая працай і талентамі тысяч сваіх верных сыноў — хлебароў і рабочых, навукоўцаў і паэтаў, кампазітараў і музыкантаў.

Вялікая адлегласць паміж Чувашыяй і Беларуссю, але тысячы стужак шчырага сяброўства злучаюць нашы народы.

Афіцыйная статыстыка налічвае ў Рэспубліцы Беларусь каля трох тысяч этнічных чувашоў. Гісторыя, на жаль, не вызначыла дакладны час з'яўлення іх у Беларусі. Але ў дзённікавых запісах вядомага героя Айчыннай вайны 1812 г. Дзяніса Давыдава ёсць радкі: "...у тым баі ад вернай гібелі ўратаваў мяне абаяльны, дасціпны і найхрабрэйшы іншаземец з Чабаксарскага павета Кандрацій Іваноў, які доўгі час пражыў сярод беларусаў..." Гэтыя словы пераканаўча сведчаць, што чувашы тут прыжыліся здаўна. На гэта, безумоўна, былі важкія прычыны, у тым ліку і падабенства характараў: абодва народы адметныя працалюбствам, душэўнай цеплынёй і прагай да ведаў.

Сярод нас, нашчадкаў волжскіх булгараў, для якіх Беларусь зрабілася другой радзімай, — сотні хлебаробаў, будаўнікоў, працаўнікоў асветы, навукі, медыцыны, культуры, архітэктары, вайскоўцы, супрацоўнікі праваахоўных органаў. З найбольш вядомых асобаў перш за ўсё трэба адзначыць члена-карэспандэнта

Нацыянальнай акадэміі навук І. Бардышава, заслужанага дзеяча навукі доктара ветэрынарных навук В. Пятрова, заслужанага архітэктара В. Анікіна, чэмпіёна свету па стральбе заслужанага майстра спорту А. Кедзярова, міжнароднага гросмайстра па шахматах А. Аляксандрава, кінарэжысёра Дз. Міхлеева, заслужанага дзеяча мастацтваў кампазітара Г. Анчыкава і многіх іншых. Заслужаны аўтарытэт набылі прадпрымальнікі П. Шоркін, Л. Бармоцін, Г. Чумакоў, Е. Палікарпаў і іншыя.

Нямала подзвігаў здзейснілі чувашы ў баях за вызваленне Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны: 14 чалавек сталі Героямі Савецкага Саюза (пяцярым гэтае званне прысвоена пасмяротна). Шырока вядомы прозвішчы першага кіраўніка гродзенскага падполля Волкава, партызанскіх камандзіраў Манахава і Тарасава. З асаблівай ўдзячнасцю згадваюць на Піншчыне камандзіра 75-й стралковай дывізіі генерал-маёра Нядвігіна, які выявіў мужнасць і адвагу ў першыя дні вайны. Яго імем названа адна з вуліц Маларыты.



*І чувашы ладзяць сваё Купалле*

Мы вядзём вялікую работу па выяўленню і наведванню месцаў пахаванняў нашых землякоў, якія загінулі на беларускай зямлі ў гады вайны з фашызмам. Пошукі дазволілі ўстанавіць колькасць чувашоў, якія склалі галовы на Гомельшчыне і Віцебшчыне. Працягваем работу на тэрыторыі іншых абласцей.

Члены Абшчыны беларускіх чувашоў жывуць насычаным жыццём, сустракаюцца, весела і цікава адпачываюць.

***Капітон Быкаў**, кіраўнік прэс-службы Абшчыны беларускіх чувашоў*
*Пераклад з рускай **Вольгі Мазуравай***



## САРДЭЧНА ВІНШУЕМ!

За заслугі ў папулярызацыі ўкраінскай літаратуры Рада Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў нашай краіны ўстанавіла штогоднюю міжнародную літаратурную прэмію імя Івана Франка. Яна прысуджаецца лепшым даследчыкам і перакладчыкам нашага прыгожага пісьменства. Сёлета яе атрымалі вядомыя беларусісты і ўкраіністы з Мінска дацэнт ***Таццяна Кабржыцкая*** і прафесар ***Вячаслаў Рагойша***. Уручэнне прэміі адбылося днямі ў Львове. Урачысты акт здзейсніў вядомы пісьменнік і грамадскі дзеяч, сябра беларускай літаратуры Раман Лубкіўскі.

***Іван Лучук** (Львоў, Украіна)*




## АСОБА І ЯЕ СПРАВА

Відаць, не ўсім чытачам “Кантактаў і дыялогаў” вядома, што адна з далёкіх зорак Сусвету ў Паўночным паўшар’і неба, у сузор’і Аўрыга, атрымала імя беларуса Арсена Ваніцкага, старшыні прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Гэта адбылося 1 студзеня 1993 г. па рашэнню Міжнароднага рэгістра зорак. Туды з такой прапановай звярнулася група школьнікаў, настаўнікаў і лекараў з Рамапо, з-пад Нью-Йорка, якія неаднаразова наведвалі Мінск з дабрачыннымі мэтамі, сустракаліся з беларусамі, у тым ліку і з аўтарам кнігі, якая толькі што пабачыла свет у нашым выдавецтве: “Адценні жыцця: Роздум аб мінулым і сучасным”, аўтарам, які даў імя невядомай раней зорцы. Сустракаюцца з ім прадстаўнікі самых розных краін і народаў. Бо з 1984 г. ён, Арсен Ваніцкі, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, узначальвае тое самае Беларускае таварыства дружбы, якое было заснавана ў 1926 г. па ініцыятыве Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота.


*Варшава... (А. Ваніцкі — крайні справа)*

З кнігі “Адценні жыцця” добра і ўсебакова паўстае Асоба аўтара і яго Справа. У раздзеле “Успаміны аб мінулым” А. Ваніцкі з цеплынёй гаворыць пра сваіх бацькоў і сваякоў, пра родную вёску Антанова, што пад Баранавічамі. Пасля школы была вучоба на юрыдычным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта, была работа на розных пасадах (у тым ліку — намесніка міністра культуры). Былі паездкі на чале дэлегацый і творчых калектываў у Лацінскую Амерыку і па Скандынавіі, Кітай і Ісландыю, Эфіопію і на Мадагаскар. Пра ўсё гэта гаворыцца ў другім раздзеле кнігі пад назвай “Незабыўныя вандроўкі”. Ён багата ілюстраваны здымкамі (адзін з іх рэпрадукуецца).

“Адценні дружбы” — гэта летапіс Беларускага таварыства дружбы, нашых узаемаадносін з краінамі розных кантынентаў, іх культурай.

*__Ліліяна Анцух__, галоўны рэдактар выдавецтва “Чатыры чвэрці”*

# НА КАНГРЭСЕ Ў КІТАІ

Нядаўна я быў запрошаны ў Народную Рэспубліку Кітай (г. Пекін) для ўдзелу ў рабоце Інтэр-кангрэса па этнічных культурах метраполій, іх зместу і ўзаемаўплыву. Аргкамітэт і спонсары кангрэса прапанавалі мне як жыхару "трэцяй" краіны папрасіць грант на пражыванне, харчаванне, арганізацыйны ўзнос. На мой запыт была дадзена імгненная згода. Дарожныя расходы прафінансаваў Беларускі Рэспубліканскі фонд фундаментальных даследаванняў.

На кангрэсе, які адбыўся 22–29 ліпеня, прысутнічалі каля 400 вучоных, магчыма з 30-ці краін свету, мноства кітайскіх калег і студэнтаў. Прыём гасцей быў самы цёплы і добразычлівы. У гатэлі, на вуліцах Пекіна, у маркетах і на рынках сустракаў толькі вясёлыя твары. З людзьмі майго пакалення і больш сталага ўзросту можна заўсёды дамовіцца па-руску, са школьнікамі — на англійскай мове. Сярэдняе пакаленне размаўляе толькі па-кітайску. Існуюць сапраўды свабодныя цэны, па дагаваронасці паміж пакупніком і прадаўцом. Дзяржава, як мне падалося, у гэты працэс ніяк не ўмешваецца. На вуліцах тысячы прыпаркаваных "басікаў", веласіпедаў па-нашаму, якімі гаспадары карыстаюцца ў любы час. Падмануць дапускаецца, украсці чужую рэч — ніколі.



*Беларускія ўдзельнікі кангрэса (крайнія злева і справа)*

Кожны дзень, акрамя экскурсійнага, ішла даволі напружаная работа. Кангрэс працаваў па чатырох праблемах: узаемаўплыў паміж рознымі этнічнымі культурамі ў гарадах; антрапалогія ў палітыцы і практыцы; міжэтнічныя сувязі праз суадносіны і музыку на мяжы стагоддзяў. Прайшла 7-я Міжнародная акадэмічная канферэнцыя па экалогіі чалавека. Я прымаў актыўны ўдзел у пленарных пасяджэннях і ва ўсіх трох сімпозіумах канферэнцыі — у дыскусіях і з навуковым дакладам на тэму "Стан здароўя гарадскіх і сельскіх папуляцый беларускага этнасу". У дакладзе акрамя канкрэтных лічбаў выкладаліся магчымыя экалагічныя, сацыяльныя і генетычныя акалічнасці, якія не спрыяюць добраму здароўю сучаснага насельніцтва. Смяротнасць як інтэграцыйны паказчык здароўя на працягу апошняга дзесяцігоддзя значна перавышае нараджальнасць. Сярод сялян гэтая розніца ў два разы вышэйшая ў параўнанні з гараджанамі. Амаль палова смярцей як у горадзе, так і на сяле адбываецца па прычыне сардэчна-сасудзістай паталогіі, на другім месцы стаяць анкалагічныя хваробы.

Трэцяй сярод прычын смяротнасці на працягу 80–90-х гг. (кожны дзясяты) заставаліся суіцыды, забойствы, аварыі. Дэпапуляцыя вёскі настолькі парушыла дэмаграфічную структуру сельскага насельніцтва, што па даных двух апошніх перапісаў (1989 і 1999), класічныя ілюстрацыі так званых пірамід выглядаюць даволі хісткімі.

Сярод дэлегатаў кангрэса адбыліся навуковыя дыялогі, асабліва па новых метадах і магчымасцях вывучэння генадэмаграфічнага і псіхафізічнага станаў мігрантаў з сяла ў горад. Наладжаны асабістыя кантакты з венгерскімі, індыйскімі, польскімі і кітайскімі калегамі. Мне таксама спадабаліся адносіны кітайскіх улад да маладзетных сем’яў, этнічных асаблівасцей розных культур. Назаўсёды запомніцца разнастайнае высакаякаснае харчаванне, культурныя праграмы і экскурсіі ў Пекінскі заасад і Нацыянальны парк, прыёмы і канцэрты мастацкай самадзейнасці. Хацеў бы праз бюлетэнь падзякаваць кітайскім калегам і нашаму БРФФД за магчымасць здзейсніць творчую камандзіроўку ў далёкую ўсходнюю краіну, знайсці там новых сяброў, замацаваць прафесійныя сувязі са славенскімі, украінскімі і эстонскімі калегамі. Тэзісы нашых дакладаў надрукаваны на кітайскай і англійскай мовах. Арганізатары запэўнілі, што даклады будуць цалкам надрукаваны ў матэрыялах кангрэса да канца бягучага года.

***Аляксей Мікуліч,***
*доктар біялагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі*

## У ДЗЕНЬ ПРЫСЯГІ КАРАЛЯ

Дзень прысягі караля — нацыянальнае свята Бельгіі. Яно было ўстаноўлена ў памяць пра тое, што 21 ліпеня 1831 г. першы кароль краіны Леапольд I прысягнуў на вернасць Канстытуцыі. Шлях Бельгіі да незалежнасці быў нялёгкім. На працягу стагоддзяў народ гэтай краіны зведаў панаванне рымлян і франкаў, бургундцаў і іспанцаў. У 1815 г., пасля паражэння Напалеона, яе тэрыторыю далучылі да Нідэрландаў. Але народ хацеў самастойнасці. 4 кастрычніка 1830 г. пачалося паўстанне. У выніку яго перамогі краіна атрымала свой парламент, свайго караля і сваю канстытуцыю.

Прыгадаю, што сёння ў Бельгіі прыкладна такое ж насельніцтва, як і ў Беларусі, — каля 10 мільёнаў чалавек. Тэрыторыя краіны — 30,5 тыс. кв. кіламетраў. Карысных выкапняў цяпер амаль няма. Таму кароль і іншыя афіцыйныя асобы любяць паўтараць, што “шэрае рэчыва галаўнога мозга з’яўляецца галоўнай сыравінай, якой у дастатковай колькасці можа карыстацца краіна”. Кароль Альберт II і каралева Паола Руфа вельмі папулярныя ў народзе. Кажуць, што тут “кароль пануе, але не кіруе”, хаця гэта і не зусім так: ён з’яўляецца кіраўніком штаба арміі, можа прызначаць і адклікаць міністраў, дыпламатаў і г. д.

У Бельгіі, сёння адной з самых развітых і заможных краін свету, цяпер тры дзяржаўныя мовы — фламандская, французская і нямецкая. Кожны служачы дзяржаўнай установы павінен ведаць усе тры. Віншуючы свой

народ з якім-небудзь святам, кароль таксама выступае па-фламандску, па-французску і па-нямецку.

Стала ўжо традыцыяй, што сябры Таварыства “Беларусь – Бельгія” ў Дзень прысягі караля збіраюцца ў Доме дружбы на вечарыну. 21 ліпеня на ёй прысутнічаў грамадзянін Бельгіі Ван Стротам і яго жонка (француженка) Віолен эт Олівер. Госць расказаў прысутным многа цікавага пра сваю краіну.

Уражаннямі пра Бельгію падзяліліся беларускія пісьменнікі Вольга Іпатава і Андрэй Федарэнка, якія прымалі ўдзел у падарожжы “Літаратурны экспрэс Еўропа – 2000”. Яны наведалі горад Іпрыт, які ў час Першай сусветнай вайны быў цалкам зруйнаваны. Дарэчы, там упершыню быў выпрабаваны на людзях смяротны газ, які атрымаў назву горада. Цяпер горад адноўлены па ранейшых праектах. Пра вайну ж нагадваюць могілкі, на якіх пахаваны салдаты абодвух варожых бакоў, і музей. Беларускіх наведвальнікаў здзівіла ў музеі вялікая мемарыяльная дошка, дзе пералічаны многія гарады і вёскі, знішчаныя на працягу апошніх сусветных войнаў, аднак там чамусьці не было аніводнай беларускай назвы. І Вольга Іпатава дапісала там вялікімі літарамі — “Беларусь…”.



Дарэчы, бельгійцы вельмі ганарацца адноўленым Іпрытам. Пра яго членам таварыства многа расказваў і паэт Камэль Ванхол, які наведаў нашу краіну разам з “Літаратурным экспрэсам” і пабываў у Вязынцы, на радзіме Янкі Купалы (здымак паэта, які тут публікуецца, быў зроблены намі якраз у Вязынцы).

Прысутныя на вечарыне праслухалі цудоўны канцэрт ансамбля флейтыстаў, якім кіруе дацэнт Беларускай акадэміі музыкі Ніна Аўраменка, прагледзелі кінафільм пра шлюб бельгійскага прынца Філіпа, прысланы нам сябрам Беларусі спадаром Масанжам дэ Каломбам Мурысам. Той жа тэматыцы была прысвечана выстаўка бельгійскай прэсы.

***Тамара Антановіч**, старшыня Таварыства “Беларусь – Бельгія”*



## САРДЭЧНА ВІНШУЕМ!

Сябра нашага калектыва ***Наталля Давыдзенка***, вядомая таксама як руская паэтэса Марына Наталіч, адзначыла свой першы юбілей. Сто год!

***Рэдкалегія***



# З РЭДАКТАРСКАГА БЛАКНОТА

Што ні кажыце, шаноўныя чытачы, але мы, беларусы, народ усё ж дзівосны, унікальны, можна сказаць, у Еўропе. Мала таго што сваю культурную спадчыну слаба зберагаем і шануем, дык яшчэ і суседняй, падараванай, распараджаемся бяздумна, не па-гаспадарску. Відаць гэта і ў манументальным мастацтве.

Калі б сярод сталіц Еўропы правесці конкурс, колькі выдатных нацыянальных дзеячаў там увекавечана ў помніках, то, мусіць, Беларусь заняла б апошняе месца. Купала, Колас, Багдановіч, малапрыкметныя выявы Гарэцкага і Драздовіча — і бадай усё. Да гэтага часу ідуць спрэчкі, дзе стаяць Францыску Скарыне. Нібыта трэба — на праспекце яго імя. Каля будучай Нацыянальнай бібліятэкі ў канцы праспекта, пад самымі Усходнімі могілкамі? Але як "прывязаць" помнік да будынка, які яшчэ нават не закладзены?! Каля галоўнага корпуса Нацыянальнай акадэміі навук, як тое было вырашана раней? Але ж кіраўніцтва акадэміі супраціўляецца гэтай ідэі, ухваленай калісьці ў яе ж сценах. То тады, можа, у той частцы горада, якая ў часы Скарыны ўжо існавала?! Скажам, у цэнтры плошчы Свабоды, хоць крыху і воддаль ад аднайменнага праспекта? Або на спуску адтуль да Нямігі ці бліжэй да былога замчышча — нібы першадрукар прыйшоў туды з роднага Полацка… Ці другі парадокс: помнік Кастусю Каліноўскаму стаіць у Літве, у Шальчынінкаі, а ў беларускай сталіцы яго няма і, мусіць, доўга не будзе.

З падараванымі помнікамі таксама ўзнікаюць парадоксы. Аляксандра Пушкіна паставілі не на праспекце яго імя ці не перад бібліятэкай яго імя — былой або сённяшняй, а каля вышыннага будынка гасцініцы "Беларусь", на колішніх могілках, непадалёку ад месца, дзе стаяў млын легендарнага Мянеска. І сядзіць сабе там Пушкін удалечыні ад людных месцаў, зусім незаўважны… Помнік Тарасу Шаўчэнку, адліты ўкраінцамі з бронзы, таксама хацелі паставіць на былых могілках — на гэты раз нядаўніх, Старажоўскіх. Нібыта ён там праязджаў па дарозе ў Вільню (хаця такі шлях гістарычна не пацвярджаецца). Нават камень на месцы будучага помніка паставілі, хаця другі, падобны, ужо ляжаў у Кіеўскім скверы… І толькі цяпер, напярэдадні адкрыцця трохметровай скульптуры (у прысутнасці, як меркавалася, Прэзідэнта Украіны), спахапіліся (паверце: мне асабіста таксама давялося тут прыкласці нямала намаганняў на самых розных узроўнях), што ўсё гэта будзе выглядаць неэтычна, не пахрысціянску. Да таго ж у Мінску ёсць больш дарэчныя мясціны. Гэта — і "незаняты" сквер каля новага будынка ўкраінскага пасольства, і той жа Кіеўскі сквер у канцы бульвара Шаўчэнкі… А яшчэ, выходзіць, нашы ўлады павінны

ў адказ падараваць Кіеву беларускага пісьменніка. Скажам, Уладзіміра Караткевіча, які там вучыўся.

Недарэчна сталася і з помнікам трэцяга славянскага класіка, да таго ж нашага суайчынніка — Адама Міцкевіча. Юбілей яго святкаваўся раней іншых. Таму і помнік Міцкевічу збіраліся паставіць раней — у 1998 годзе. Палякі гатовы былі перадаць мінчанам, па меншай меры, бюст. Але тут пачаліся спрэчкі з-за месца. Польская дыяспара прапанавала сквер каля вакзала, каля вуліцы Свярдлова, якую (нягледзячы на ўсю анахранічнасць назвы) ніхто не збіраўся пераназываць. Гарадскія ўлады — Юбілейную плошчу (каля станцыі метро Фрунзенская) або новы мікрараён. Тады па ініцыятыве Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў быў праведзены “круглы стол”, удзельнікі якога, абмеркаваўшы гэтае і іншыя пытанні, прайшліся па альтэрнатыўных месцах і выбралі сваё: безназоўны сквер каля вуліцы Гарадскі Вал (прынамсі, яна існавала ў часы Міцкевіча). Знайшлі круг, дзе Міцкевіч мог бы (на фоне лесвіцы) выглядаць як пілігрым, што прыйшоў сюды ў сталыя гады з роднага Наваградка ці Парыжа… І тут Міністэрства культуры Беларусі абвясціла (і, мусіць, слушна: Міцкевіч жа нарадзіўся на нашай зямлі) свой конкурс на бюст паэта. Найлепшым, найбольш арыгінальным праектам (сведчу пра гэта як член журы) паказалася стэла з выявай Міцкевіча ў выглядзе пілігрыма. Але такая заяўка была лабіравана: маўляў, не бюст! І якое ж было наша здзіўленне, калі замест двух найбольш набліжаных да ўмоваў конкурсу і прэміяваных бюстаў быў ухвалены зусім іншы праект, дзе Міцкевіч ужо сядзіць. Ды прайшлі ўсе тэрміны, а паэт усё яшчэ не “сеў” на ўзгодненае месца, бо не было грошай. Праўда, нядаўна з задавальненнем я даведаўся, што грошы нарэшце знайшліся (з Прэзідэнцкага фонду). Што ж, лепей з вялікім спазненнем, чым ніколі.

Ад памяці манументальнай перайду да звычайнай чалавечай памяці пра нашых знакамітых суайчыннікаў, якіх не стала ў апошні час. З Парыжа прыйшла сумная вестка, што 14 верасня там памёр рэдактар “лёсавызначальнай” “Культуры” Ежы Гедройц, ураджэнец Мінска. У беларускім друку з’явілася нямала артыкулаў (напрыклад, прафесар Эльжбеты Смулковай у беластоцкай “Ніве”), дзе падкрэсліваецца, што гэты выдатны палітык і публіцыст адносіўся да беларусаў з вялікай павагай і сімпатыяй, яшчэ ў 40-х гг. прадракаў ім незалежнасць. Памяць пра нашага суайчынніка (у канцы мінулага года яму, дарэчы, быў уручаны дыплом аб наданні годнасці ганаровага сябра МАБ) безумоўна павінна быць увекавечана і ў Мінску — хаця б у назве вуліцы ці бібліятэкі. Кіраўніцтва нашай асацыяцыі выступіла з ініцыятывай (праўда, тут ёсць складанасці ў яе рэалізацыі) аб наданні імя Ежага Гедройца Польскаму інстытуту ў Мінску.

Другая вялікая страта — смерць беларускай мастачкі Галіны Русак. Памерла яна 13 верасня, а 16 верасня была пахавана на Беларускіх могілках імя Жыровіцкае Божае Маці ў штаце Нью-Джэрсі (ЗША). Працы нябожчыцы выстаўляліся на многіх выстаўках як у Амерыцы, так і ў Беларусі, а дзве з іх (“Цвяток радзімы васілька” і “Ой, Нёман мой, Нёман…”) упрыгожваюць музей

“Беларусы ў свеце”, які існуе ў Цэнтры імя Ф. Скарыны. Спадзяюся, што імя Галіны Русак, прафесара Роджэрс універсітэта, аўтара многіх мастацтвазнаўчых прац таксама будзе ўвекавечана — найперш у Навагрудку, дзе яна нарадзілася 24 мая 1930 г., дзе прайшло дзяцінства мастачкі.

З публікацый апошняга часу мне хочацца адзначыць наступныя. У “Голасе Радзімы” (4 кастрычніка) санкт-пецярбургскі даследчык Мікалай Нікалаеў падрабязна разглядае дзейнасць Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дае высокую (можа быць, нават авансава завышаную) ацэнку яе выданням, іх інфармацыйнай насычанасці. У “Настаўніцкай газеце” (10 кастрычніка) гомельскі беларусіст Мікалай Палкаўнічэнка, прааналізаваўшы сімволіку гравюр у выданнях Скарыны, прыходзіць да вываду, што найбольш верагодным годам нараджэння славутага асветніка можна лічыць 1482 год (аўтар тут абапіраецца і на працы англійскага беларусіста Гая Пікарды). У “Советской Белоруссии” (7 кастрычніка) Людміла Налівайка і Ілья Куркоў узнаўляюць на падставе архіўных дакументаў невядомыя старонкі з біяграфіі фінскага і беларускага мастака Аляксандра Ахола-Вало і яго жонкі, таксама неардынарнай асобы, Алены Нікановіч-Ахола (толькі аўтары недакладныя ў тым, што мастак у 1995 г. выступаў на Міжнародным кангрэсе беларусаў свету — гэта быў II Міжнародны кангрэс беларусістаў).




Радасная вестка прыйшла са Стакгольма, з Каралеўскай акадэміі навук: наш зямляк Жарэс Алфёраў, ураджэнец Віцебска (гэта падкрэсліваецца ў паведамленні), стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі ў галіне фізікі. Прыводзім гэтыя радкі, бо нават маскоўскае НТВ назвала яго выхадцам з Санкт-Пецярбурга, нават беларускія газеты доўга не згадвалі, што адзін з бацькоў сучасных камп’ютэраў, лазерных прынтэраў і мабільных тэлефонаў з’яўляецца нашым суайчыннікам (дарэчы, чацвёртым Нобелеўскім лаўрэатам, генетычна звязаным з Беларуссю). У гэтым нумары мы друкуем адпаведны артыкул Вольгі Гапоненка, падрыхтаваны ёю для даведніка “Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах” (ён павінен выйсці ў снежні) некалькі гадоў назад.

І ў заключэнне — зноў пра гістарычную памяць. Новы польскі часопіс “Regiony” (2000, № 1) змяшчае публікацыю беластоцкай беларусісткі Анны Энгелькінг “гаворана-пісанай” аповесці жыхаркі Пінска Ніны Лушчык-Ільянковай “Электрастанцыя”, дзе часта выкарыстоўваецца мясцовая гаворка. Апошнія радкі гэтай арыгінальнай “гутаркі” звернуты да нас, да новых пакаленняў. Гучаць у іх дакор і надзея: “Гэй, паляшуку з Качанавіч, Месткавіч! Твуй дзяд

і прадзяд на досвітку, ешчэ колы сонейко не вставало, выплывалы лодзён до мяста, бачылы вежы косцёла. Він стоял, выцягнувшы рукы, і чэкал вас, полешукі, до себе. Чому, чому нашы діты і внукы тількы на взэрунках убачаць ёго?

Прошу я вас, дывытэса тэпэр на святыні, шчо осталыся. І не спускайтэ з ніх вочы ніколы".

Сказана "простай" жанчынай. Але такой бы мудрасці — іншым інтэлігентам і кіраўнікам!

***Рэдактар***

## СУСТРЭЧА НА VILLA SOKRATES



Пісьменнікі і навукоўцы Польшчы і Беларусі, Вялікабрытаніі і Францыі, Германіі і Швецыі сабраліся ў Крынках на Беласточчыне на сваё чарговае Трыенале. У цэнтры (у чорным касцюме) гаспадар Villa Sokrates вядомы беларускі пісьменнік і публіцыст Сакрат Яновіч. Ад "Кантактаў і дыялогаў" у сустрэчы прыняў удзел паэт і перакладчык Юрась Жалезка



## САРДЭЧНА ВІНШУЕМ!

Праз "Кантакты і дыялогі" мне хочацца сардэчна павіншаваць вядомага нямецкага даследчыка і перакладчыка ***Норберта Рандава***, які адначасова займаецца балгарскай і беларускай літаратурамі. Ён узнагароджаны вышэйшай балгарскай узнагародай — ордэнам Стара Планіна.

***Венета Георгіева-Козарава*** *(Габрава, Балгарыя)*





## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА

# АЛФЁРАЎ ЖАРЭС



***Алфёраў Жарэс Іванавіч*** *(15.03.1930, г. Віцебск), фізік, сапраўдны член Расійскай Акадэміі навук (1979; член-карэспандэнт з 1972). Замежны член НАН Беларусі (1995). Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (2000).*

Бацькі Ж. Алфёрава, Іван Карпавіч і Ганна Уладзіміраўна, нарадзіліся і жылі ў Беларусі. Бацька ўдзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі, у час грамадзянскай вайны камандаваў палком, быў адным з кіраўнікоў цэлюлозна-папяровай прамысловасці былога СССР. На момант нараджэння малодшага сына Жарэса — дырэктар аднаго з заводаў у Віцебску. Потым сям'я выехала ў Расію, вярнулася ў Беларусь пасля вайны. Ж. Алфёраў вучыўся ў СШ № 42 г. Мінска, дзе фізікай зацікавіў яго настаўнік Я. Мельцарзон. Закончыўшы ў 1947 г. з залатым медалём сярэднюю школу, паступіў у Ленінградскі электратэхнічны інстытут, які закончыў на выдатна ў 1952 г. З 1953 г. працуе ў Фізіка-тэхнічным інстытуце імя А. Іоффе АН СССР (цяпер Расійская Акадэмія навук), з 1973 г. — загадчык лабараторыі, з 1987 г. — дырэктар. Адначасова з 1972 г. — прафесар кафедры оптаэлектронікі Ленінградскага электратэхнічнага інстытута (цяпер Санкт-Пецярбургскі электратэхнічны універсітэт), дэкан арганізаванага ім фізіка-тэхнічнага факультэта Ленінградскага палітэхнічнага інстытута. З 1989 г. — старшыня Прэзідыума Санкт-Пецярбургскага навуковага цэнтра Расійскай Акадэміі навук. У 1991 г. абраны віцэ-прэзідэнтам Расійскай Акадэміі навук.

Навуковыя даследаванні Ж. Алфёраў праводзіць у галіне фізікі паўправаднікоў, паўправадніковай і квантавай электронікі, тэхнічнай фізікі. Свае першыя навуковыя даследаванні па фотаправоднасці тэлурыда вісмута ён выканаў у студэнцкія гады. Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні першых айчынных транзістараў,

фотадыёдаў, магутных германіевых выпрамляльнікаў. Даследаванні ў гэтым кірунку абагульнены ў кандыдацкай дісертацыі, якую ён паспяхова абараніў у 1959 г.

У 1967 г. Ж. Алфёраў сумесна з калегамі стварыў у сістэме AlAs-GaAs гетэраструктуры, блізкія па сваіх уласцівасцях да ідэальнай мадэлі паўправадніковага лазера, а потым і першы паўправадніковы гетэралазер, які працаваў у бесперапынным рэжыме пры пакаёвай тэмпературы. Прапанаваў у 1970 г. ідэальны пераход ў шматкампанентных спалучэннях InGaAsP і стварыў лазеры на іх аснове, якія знайшлі шырокае выкарыстанне ў якасці крыніц выпраменьвання ў валаконна-аптычных лініях сувязі павялічанай адлегласці. Адкрыў з’явы звышінжэкцыі, электроннага і аптычнага абмежавання ў гетэраструктурах і паказаў, што ў паўправадніковых гетэраструктурах можна прынцыпова па-новаму кіраваць электроннымі і светлавымі патокамі. Стварыў “ідэальныя” паўправадніковыя гетэраструктуры. Гэта дазволіла кардынальна палепшыць параметры большасці з вядомых паўправадніковых прыбораў і стварыць прынцыпова новыя прыборы, перспектыўныя для выкарыстання ў аптычнай і квантавай электроніцы. Даследаваннямі Ж. Алфёрава практычна закладзены асновы прынцыпова новай электронікі на падставе гетэраструктур з шырокім дыяпазонам прымянення, якая вядома сёння як “зонная інжынерыя”. Вынікі даследаванняў гетэрапераходаў у паўправадніках Ж. Алфёраў абагульніў у доктарскай дысертацыі, якую паспяхова абараніў у 1970 г. Некаторыя вынікі яго фундаментальных прац леглі ў аснову новых навуковых і тэхнічных накірункаў, у тым ліку — буйнамаштабнай вытворчасці сонечных элементаў для касмічных батарэй (адна з іх была ўстаноўлена ў 1986 г. на базавым модулі касмічнай станцыі “Мір” і дзейнічала на арбіце ўвесь тэрмін эксплуатацыі без відавочнага памяншэння магутнасці).

З 1983 г. прыярытэтны кірунак навуковых даследаванняў — сінтэз і даследаванне ўласцівасцей нанаструктур паменшанага памеру (квантавых дратоў і квантавых кропак). У 1993–1994 гг. упершыню сумесна з вучнямі рэалізаваў на практыцы гетэралазер на аснове структур з квантавымі кропкамі — “штучнымі атамамі”.

Акадэмік Ж. Алфёраў — аўтар больш за 500 навуковых прац, у тым ліку 3 манаграфій, больш за 50 вынаходніцтваў. Сярод яго вучняў 48 кандыдатаў і 15 дактароў навук. За фундаментальныя даследаванні ў галіне гетэрапераходаў у паўправадніках і стварэнне на іх аснове новых прыстасаванняў Ж. Алфёраву прысуджана Ленінская прэмія СССР (1972), Дзяржаўная прэмія (1984). Ён узнагароджаны залатым медалём Франклінскага інстытута ЗША (1971). У 2000 г. яму (разам з амерыканскімі вучонымі) была прысуджана Нобелеўская прэмія ў галіне фізікі. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Расійскай Федэрацыі “За заслугі перад Айчынай” II ступені.

З’яўляецца галоўным рэдактарам часопіса «Письма в журнал теоретической физики», членам рэдакцыйнай калегіі часопіса “Физика и техника полупровод-

ников", старшынёй Савета па фізіцы і хіміі паўправаднікоў Расійскай АН, сябрам Еўрапейскага фізічнага таварыства.

У навуковым супрацоўніку акадэмік Ж. Алфёраў больш за ўсё цэніць "уменне выбраць перспектыўны кірунак, смеласць ў гэтым выбары, цярпліваць і настойлівасць, калі няма хутка бачных поспехаў у яго правядзенні".

***Вольга Гапоненка***

## БАРШЧЭЎСКІ АЛЯКСАНДР

***Баршчэўскі Аляксандр*** *(псеўд. А. Баравы, Алесь Барскі; 2.11.1930, в. Бандары Беластоцкага ваяв., Польшча), паэт, літаратуразнавец, фалькларыст, драматург. Член Саюза польскіх пісьменнікаў з 1962 г., член Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1995 г. Ганаровы доктар БДУ (1993), сапраўдны член Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі (1994).*



*Партрэт работы мастака Г. Андрэева*

А. Баршчэўскі паходзіць з сялянскай сям'і. Вучыўся ў сельскагаспадарчай школе ў Бельску-Падляшскім, на універсітэцкіх падрыхтоўчых курсах у Любліне. Скончыў Лодзінскі універсітэт (1955). Абараніў кандыдацкую (1966) і доктарскую (1986) дысертацыі. З 1956 г. выкладае на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, затым — яе нязменны прафесар і загадчык. Па запрашэнню выкладаў ва універсітэтах Віцебска, Гродна, Лондана, Любліна, Мінска, Нью-Йорка і інш. Актыўна ўдзельнічаў у рабоце Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы (з 1964 г. яго старшыня). У апошнія гады сістэматычна выступае ў беластоцкай газеце "Ніва" як публіцыст. Апублікаваў нарысы аб сваіх паездках у СССР, ЗША, Англію. Віцэ-прэзідэнт ГА "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў", старшыня Польскага беларусістычнага таварыства, намеснік старшыні Згуртавання фалькларыстаў Беларусі.

У друку выступае з 1956 г. Адзін з вядучых прадстаўнікоў беларускай літаратуры ў Польшчы. Вершы пачаў пісаць у 1956 г. Аўтар паэтычных кніг "Белавежскія матывы" (1962), "Жнівень слоў" (1967), "Мой бераг" (1975), "Блізкасць далёкага" (1983), "Лірычны пульс" (1986), "Зборніка абразкоў, артыкулаў і дарожных нататак бачанага і перажытага" (1992), даследаванняў "Гісторыя беларускай літаратуры. Ч. 1. Фальклор" (1976), "Гісторыя беларускай літаратуры. Ч. 2. Перыяд Вялікага Княства Літоўскага" (1981), "Ігнат

Дварчанін, палітык і вучоны” (у сааўтарстве з А. Бергман і Е. Тамашэўскім, 1990), “Беларуская абраднасць і фальклор усходняй Беласточчыны” (1990) — апошнія чатыры працы выйшлі на польскай мове. У сааўтарстве з В. Шведам выдаў беларускія хрэстаматыі для VII і VIII класаў. Творы А. Баршчэўскага перакладаліся на англійскую, нямецкую і іншыя мовы. У сваю чаргу ён сам перакладае з беларускай, рускай і ўкраінскай на польскую мову, у прыватнасці, пераклаў зборнік беларускіх народных казак “Д’ябальская скрыпка” (1973, 1977), “Невычэрпны збан” (1976), зборнікі вершаў В. Лукшы (1983), Я. Купалы (1984), В. Віткі (1985), А. Пысіна (1985), паэму Я. Купалы “Яна і я” (1985), зборнікі рускіх і ўкраінскіх казак і інш. Галоўныя тэмы паэзіі — вернасць родным караням, складаны духоўны свет сучаснага чалавека, інтымныя пачуцці. Вершы А. Баршчэўскага вылучаюцца экспрэсіўнасцю, метафарычнасцю. Аўтар драматычных і празаічных твораў, а таксама падручнікаў для студэнтаў. З’яўляецца актыўным арганізатарам і ўдзельнікам многіх беларусістычных кангрэсаў, канферэнцыі і “круглых сталоў”.

Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (1991), іншымі ўзнагародамі.

***Адам Мальдзіс***

*Камітэт ГА “МАБ” і рэдкалегія “Кантактаў і дыялогаў” віншуюць шаноўнага калегу і дарагога сябра з 70-годдзем і жадаюць яму добрага здароўя і новых кніг.*

## СТАГАНОВІЧ ТАМАРА

***Стагановіч Тамара*** *(15.11.1930, в. Несутычы цяперашняга Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.), беларуская мастачка.*

Нарадзілася ў сям’і былога пасла польскага сейма Аляксандра Стагановіча, вядомага ў Заходняй Беларусі грамадска-палітычнага дзеяча. Ад бацькі дзяўчыны перадалося лагічнае мысленне, ад маці, таленавітай вышывальшчыцы, — творчыя здольнасці, мастацкае бачанне свету. Сям’я Стагановічаў у 1944 г. выехала ў Германію, дзе пасялілася ў лагеры для перамешчаных асоб (Мітэнвальд, Баварыя). Там Тамара скончыла Украінскую гімназію. З мая 1950 г. жылі ў ЗША. У 1956 г. стала грамадзянкай ЗША. У гэтай краіне завяршылася адукацыя будучай мастачкі: яна закончыла ў Агаё Вестэрн каледж, дзе атрымала ступень бакалаўра, у Нью-Йорку — Інстытут мастацтва Калумбійскага універсітэта. Пасля заканчэння апошняга (1956) атрымала ступень магістра па мастацтву. Потым вучылася ў Мастацкай студэнцкай лізе (Нью-Йорк).

З 1955 г. Т. Стагановіч удзельнічала ў групавых выстаўках. У 1968 г. адбылася яе першая персанальная выстаўка ў галерэі “Аванты” (Нью-Йорк). Т. Стагановіч была ўдзельніцай больш 120 выставак у розных гарадах ЗША. Займаецца мастацтвам прафесійна. Працуе ў некалькіх жанрах: выступае як манументаліст, жывапісец, графік. У ЗША творчасць Т. Стагановіч досыць шырока вядома

аматарам мастацтва — яна ілюструе дзіцячыя кніжкі, робіць паштоўкі. У дзесятках яе жывапісных палотнаў знайшлі сваё ўвасабленне новыя, нязвыклыя для амерыканцаў беларускія матывы. Прозвішча мастачкі ёсць у даведніках “Хто ёсць хто ў амерыканскім мастацтве”. Т. Стагановіч з’яўляецца сябрам шматлікіх мастацкіх клубаў. Улетку 1993 г. мастачка наведала Беларусь, прымала ўдзел у I з’ездзе беларусаў свету. Працы Т. Стагановіч выстаўляліся ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі. Трыпціх “Вера, Надзея, Любоў” мастачка передала ў дар Рэспублікі Беларусь. 17 яе графічных твораў знаходзяцца ў музейнай экспазіцыі “Беларусы ў свеце” (Цэнтр імя Ф. Скарыны). Т. Стагановіч жыве ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі).



Творчую манеру мастачкі вызначаюць як “абноўлены” імпрэсіянізм. Т. Стагановіч плённа пераняла традыцыі выдатных прадстаўнікоў гэтага напрамку Дж. В. Тэрнера, Э. Манэ і інш. Асабліва выразна імпрэсіяністычныя элементы назіраюцца ў яе пейзажах, спецыфічнай адзнакай якіх сталі светлы каларыт, прыглушанасць, мяккасць фарбаў, размытасць вобразаў. Сярод найбольш вядомых жывапісных палотнаў Т. Стагановіч — творы “Вера, Надзея, Любоў”, “Чырвоны камень, штат Мэйн”, “Ручай зімою”, “Зубры. Елаўстоўнскі нацыянальны парк, штат Ваёмінг”, “Мае сосны”. Мастачка тонка адчувае прыроду, шукае ў ёй, у чалавечым грамадстве першародную чысціню, сваёй творчасцю спрабуе пераканаць гледача ў існаванні сусветнай музыкі-гармоніі — гучанне яе ў фарбах твораў Т. Стагановіч аднрачасова зямное і касмічнае. Натуральнае, арганічнае для мастачкі спалучэнне ў творчасці беларускіх элементаў з амерыканскімі. Т. Стагановіч цікавіцца гісторыяй, традыцыямі беларускага і амерыканскага народаў. Прага духоўнай свабоды, любоў да радзімы, вера ў свой народ натхняюць яе на стварэнне новых палотнаў.

***Святлана Сачанка***

*Кіраўніцтва МАБ і рэдкалегія “Кантактаў і дыялогаў” ад усяго сэрца вітаюць спадарыню Тамару Стагановіч з юбілеем.*



## САРДЭЧНА ВІНШУЕМ!

***Беларускай парафіі імя Святой Ефрасінні Полацкай*** ў Саўт-Рыверы (ЗША) споўнілася 50 гадоў. 23 кастрычніка беларуская супольнасць Нью-Йорка і суседняга штата Нью-Джэрсі адзначыла гэта свята фестывалем.

***Галіна Прыгара*** *(Нью-Йорк, ЗША)*

## ЯЦКЕВІЧ МЕЧЫСЛАЎ

***Яцкевіч Мечыслаў*** *(26.3.1931, в. Бокшышкі Валожынскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл.), доктар габілітаваны, літаратуразнаўца, перакладчык, грамадска-культурны дзеяч, дыпламат.*

М. Яцкевіч нарадзіўся ў беларускай сям'і. Жыў у Вільні, дзе бацька працаваў слесарам. У 1938 г. М. Яцкевіч пайшоў у Віленскую пачатковую школу № 11. У час Другой сусветнай вайны жыў у Кямелішках (цяпер Астравецкі р-н Гродзенскай вобл.), дзе закончыў сярэднюю школу. Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Тракаі. У 1951 г. працаваў настаўнікам у Кямелішках. У 1951–1954 гг. праходзіў ваенную службу ў Туркменіі. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Літву, дзе працаваў настаўнікам у Міцкунах каля Вільнюса. У 1954 г. ажаніўся і разам з сям'ёй выехаў у Польшчу. У 1956–1958 гг. працаваў дырэктарам сярэдняй школы, у 1958–1969 гг. — дырэктарам дзіцячага дома. У 1961 г. закончыў настаўніцкія курсы ў Кшэшавіцах каля Кракава па спецыяльнасці педагогіка-ахова дзяцей. У 1966 г. закончыў рускае аддзяленне філалагічнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта. У 1969 г. пераехаў у Ольштын, дзе ў 1969–1973 гг. быў генеральным сакратаром грамадска-культурнага таварыства "Pojezierze" ("Паазер'е"). У 1973 г. пачаў працаваць у Вышэйшай педагагічнай школе ў Ольштыне. У 1975 г. у Варшаўскім універсітэце атрымаў званне доктара гуманітарных навук. У 1988–1998 гг. працаваў на кафедры ўсходазнаўства і балтыстыкі Універсітэта імя А. Міцкевіча ў Познані, дзе выкладаў гісторыю літоўскай літаратуры. У 1994 г. атрымаў навуковае званне доктара габілітаванага ў галіне параўнальнага літаратуразнаўства. З 1994 г. працаваў ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Ольштыне і ва Універсітэце А. Міцкевіча ў Познані. У красавіку 1998 г. быў накіраваны на пасаду Генеральнага консула Рэспублікі Польшча ў Вільнюсе.



М. Яцкевіч актыўна займаецца навукова-даследчай працай. Апублікаваў 14 кніг і каля 450 артыкулаў, прысвечаных пытанням польскай, беларускай і літоўскай літаратур і культур. Перакладае на польскую мову творы беларускіх і літоўскіх пісьменнікаў. Неаднаразова бываў у Мінску, выступаў на навуковых кангрэсах і канферэнцыях беларусістаў.

***Тэрэса Голуб***

## ПАВЕЛ ШУБА

Беларуская філалагічная навука панесла цяжкую страту. 4 верасня 2000 г. на 75-м годзе пайшоў з жыцця вядомы вучоны-лінгвіст доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, акадэмік Акадэміі адукацыі Беларусі, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, кавалер ордэна Славы Павел Паўлавіч Шуба.

П. Шуба нарадзіўся ў вёсцы Танежыцы на Случчыне ў працавітай сялянскай сям'і. Відаць, тут і трэба шукаць карані той выключнай працаздольнасці і працавітасці, што дазволілі яму ў далейшым, перамагаючы ўсялякія жыццёвыя перашкоды, дасягнуць велізарных поспехаў у абранай ім справе даследавання роднай, беларускай, і рускай моваў, у выкладанні іх некалькім пакаленням студэнтаў і школьнікаў.



Юнацтва Паўла Шубы было абпалена полымем жорсткай і крывавай вайны. У васемнаццаты год ад свайго нараджэння малады салдат быў цяжка паранены. Але пасля вайны, загаіўшы раны, юнак з самаадданасцю ўзяўся за вучобу. У 1951 г. скончыў Мінскі педагагічны інстытут па спецыяльнасці "беларуская мова і літаратура", настаўнічаў. Але няспынная цяга да ведаў не дазваляла супакойвацца на дасягнутым. Імкненне да самаўдасканалення, да пазнання і творчага засваення новага вызначылі далейшы лёс гэтага таленавітага чалавека. З 1955 г., пасля заканчэння аспірантуры і абароны кандыдацкай дысертацыі "Словаўтварэнне прыслоўяў у сучаснай беларускай літаратурнай мове", ён працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР, а з 1961 г. — на кафедры рускай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта, якой загадваў з 1974 г. на працягу 25 год. У 1971 г. абараніў доктарскую дысертацыю на тэму "Прыназоўнік у беларускай мове" і ў 1972 г. стаў доктарам філалагічных навук, у 1973-м — прафесарам.

Багатая навуковая спадчына П. Шубы займае значнае месца ў беларускім мовазнаўстве пасляваеннага перыяду. Яму належыць звыш 500 навуковых прац, у тым ліку навуковыя манаграфіі, слоўнікі, граматыкі, вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў і школьнікаў, вучэбныя праграмы. Кола яго даследчыцкіх інтарэсаў надзвычай шырокае — граматычныя катэгорыі беларускай і рускай моваў, сінтаксіс складанага сказа, словаўтварэнне, праблемы білінгвізму і моўных

кантактаў, беларуская і ўсходнеславянская тапанімія і антрапанімія, методыка выкладання роднай мовы ў сярэдняй і вышэйшай школе.

Але самыя значныя з яго прац прысвечаны беларускай мове, яе граматыцы і словаўтварэнню. Упершыню ў беларускім мовазнаўстве ім былі напісаны манаграфічныя даследаванні такіх асобных часцін мовы, як прыслоўе і прыназоўнік — “Прыслоўе ў беларускай мове: марфалагічны нарыс” (1962) і “Прыназоўнік у беларускай мове” (1971), быў выдадзены “Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў”(1993), які з’яўляецца першым у беларусістыцы слоўнікам асобнай часціны мовы. Беларускім моваведам добра знаёмыя такія працы П. Шубы, як “Дзеяслоў у беларускай мове” (1968), “Уводзіны ў граматыку беларускай мовы” (1967), “Лекцыі па беларускай марфалогіі” (1975), вучэбны дапаможнік для студэнтаў “Сучасная беларуская мова. Марфаналогія. Марфалогія” (1987).

Як сааўтар П. Шуба прымаў удзел у стварэнні капітальных прац па граматыцы беларускай мовы. Гэта і акадэмічныя выданні “Граматыка беларускай мовы” (т. 1–2, 1962–1966), “Беларуская граматыка” (ч. 1–2, 1985–1986), гэта і падручнікі па беларускай мове для студэнтаў (1957, 1959, 1961). Ва ўсіх гэтых працах П. Шуба выступае як скрупулёзны і эрудыраваны даследчык, які, добра ведаючы працы сваіх папярэднікаў, выказвае новыя погляды па цэламу шэрагу граматычных пытанняў. Ён прапанаваў новыя падыходы да вывучэння сінтаксісу складанага сказа і заканамернасцей пабудовы ўскладненых сінтаксічных канструкцый.

Вялікае месца ў навуковай спадчыне П. Шубы займаюць лексікаграфічныя працы. Ён з’яўляецца сааўтарам такіх фундаментальных лексікаграфічных выданняў, як “Беларуска-рускі слоўнік” (1962), “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” (т. 1–5, 1977–1984). З яго ўдзелам выдадзены тлумачальныя слоўнікі беларускай і рускай моваў для сярэдніх школ (1966, 1975), “Русско-белорусский математический словарь” (1993).

Навуковая дзейнасць прафесара П. Шубы была непадзельная з педагагічнай і выкладчыцкай дзейнасцю. Па яго ініцыятыве, пад яго кіраўніцтвам і пры яго актыўным удзеле быў створаны цыкл вучэбных дапаможнікаў па рускай мове для студэнтаў-філолагаў (1979–1984). З асаблівай увагай ставіўся П. Шуба да стварэння школьных падручнікаў. Ён сааўтар падручнікаў па беларускай мове для 2–4 класаў школ з рускай мовай навучання і падручнікаў па рускай мове для 5–9 класаў школ з беларускай мовай навучання, якія ўжо шматразова перавыдаваліся. Вельмі плённа працаваў П. Шуба са студэнтамі і аспірантамі. Ён выхаваў некалькі пакаленняў прафесіяналаў-лінгвістаў і падрыхтаваў 30 кандыдатаў і 8 дактароў філалагічных навук.

У асобе П. Шубы шчасліва спалучаліся таленавіты вучоны, выдатны педагог і лектар, аўтарытэтны арганізатар навукі. На працягу многіх гадоў ён быў членам Беларускага камітэта славістаў, членам некалькіх спецыялізаваных саветаў па абароне кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, старшынёй двух рэспубліканскіх метадычных аб’яднанняў, кансультантам па пытаннях мовы і моўнай

палітыкі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, членам прэзідыума Цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання, і гэта далёка не поўны пералік яго навуковых і грамадскіх абавязкаў. У 1991 г. выступіў як адзін з сузаснавальнікаў МАБ.

Талент і навуковая творчасць П. Шубы былі суразмерныя з яго жыццём, з высакароднасцю яго жыццёвых прынцыпаў. Вучні і калегі вучыліся ў Паўла Паўлавіча адносінам да людзей, да навукі, да жыцця. Светлая памяць пра яго назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў, хто працаваў разам з ім, каму пашчасціла вучыцца ў яго.

***Алена Яновіч**, доктар філалагічных навук*



## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

### ДА ЮБІЛЕЮ ЯНКІ ЛУЧЫНЫ

У ліпені 2001 года спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння Янкі Лучыны (Івана Люцыянавіча Неслуховўскага) — беларускага, польскага і рускага паэта-лірыка, інтэлектуала, аднаго з тых, хто сваёй творчасцю падрыхтаваў адраджэнскі ўздым беларускай літаратуры на пачатку XX ст. і чый зборнік “Вязанка” (1903) быў першым зборнікам беларускай паэзіі Новага веку.

14 верасня ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны сабраліся зацікаўленыя асобы, сярод якіх былі дырэктар Цэнтра Любоў Уладыкоўская-Канаплянік, намеснік дырэктара Віталь Скалабан, загадчык аддзела Адам Мальдзіс, дырэктар Інстытута літаратуры Уладзімір Гніламёдаў, даследчык Уладзімір Мархель, намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка, супрацоўніца Мінгарвыканкама Наталля Старыкава, супрацоўніца Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Паліна Саўген.

На сустрэчы была выказана зацікаўленасць у святкаванні юбілею і падкрэслена яго важнасць. У сувязі з гэтым былі выказаны канкрэтныя прапановы. Святкаванне трэба правесці на дзяржаўным узроўні, дакладна вызначыць месцы жыхарства і работы Я. Лучыны ў Мінску і ўстанавіць там мемарыяльныя дошкі, правесці агульнагарадскую вечарыну, выстаўкі ў Нацыянальнай бібліятэцы, Скарынаўскім цэнтры, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, перавыдаць кнігу твораў паэта, выдаць кнігу даследаванняў па творчасці Я. Лучыны, прысвоіць адной з вуліц г. Мінска імя Я. Лучыны, абвясціць конкурс на стварэнне надмагільнага помніка паэту на Кальварыйскіх могілках, дзе пахаваны паэт. Было таксама прапанавана выпусціць марку, канверты, паштоўкі, прысвечаныя юбілею, наладзіць вечарыны памяці паэта ў школах, правесці канферэнцыю, прысвечаную творчасці паэта, пры ўдзеле гуманітарных інстытутаў, Скарынаўскага цэнтра і Саюза беларускіх пісьменнікаў, арганізаваць спецыяльныя заняткі ў школах, сустрэчы з настаўнікамі мінскіх школ, зняць відэафільм пра паэта. Былі выказаны і іншыя прапановы.

Удзельнікі сустрэчы вырашылі звярнуцца да прэм’ер-міністра Уладзіміра Ярмошына з прапановамі па святкаванню юбілею.

***Яўген Грамыка**, супрацоўнік Цэнтра імя Ф. Скарыны*



## І. А. ЧАРОТА. БЕЛАРУСКАЯ МОВА І ЦАРКВА. Мн., 2000. 174 с.




Манаграфія доктара філалагічных навук, прафесара І. Чароты “Беларуская мова і Царква” выйшла ў свет у юбілейным 2000 г., на жаль, тыражом усяго 250 экземпляраў. Велізарная актуальнасць такой працы абумоўлена перадусім павышэннем увагі навукоўцаў, асветнікаў, усёй грамадскасці да хрысціянства не толькі ў сувязі з юбілейным годам, але таксама і сучасным “рэваншам” рэлігіі пасля стольких гадоў ваяўнічага атэізму і вульгарнага матэрыялізму на савецкай прасторы, вяртаннем да веры, рэлігіі як сродку выратавання ў ідэалагічным вакууме, масавым песімізме, у атмасферы ўсеагульнай разгубленасці і пачуцця ўнутранага дыскамфорту. Разам з тым, аб’ектыўна ўзрастае і патрэба нацыянальна-культурнага самавызначэння беларускага народа, перадусім пашырэння сферы ўжытку беларускай мовы, што адназначна можа разглядацца як “упісванне беларуса ў яго ўласны кантэкст”. Калі ў Беларусі апошнім часам пакрысе пачалі з’яўляцца працы хрысціянскага напрамку (гістарычныя і тэалагічныя, арыгінальныя і перакладныя) і актывізаваліся навуковае даследаванне і публіцыстычна-палемічнае раскрыццё нацыянальна-культурнай праблематыкі, то грунтоўных сістэмных і адначасова аналітычных прац па нацыянальнай спецыфіцы хрысціянства ў Беларусі, па сутнасці, няма. Праўда, у канцы 1999 г. пад грыфам Скарынаўскага цэнтра выйшаў у свет энцыклапедычны даведнік Юрася Гарбінскага “Беларускія рэлігійныя дзеячы”, які змясціў дакументальныя крыніцы (многія — упершыню), фотакрыніцы і персаналіі тых дзеячаў Касцёла і Царквы (на жаль, далёка не ўсіх), якія далучыліся да нацыянальна-культурнага жыцця беларусаў у XX ст.

Кніга І. Чароты прыемна ўражвае перш за ўсё сваёй грунтоўнасцю, прафесійнасцю і імкненнем аўтара да аб’ектыўнай ісціны незалежна ад сучасных палітычных і ідэалагічных лозунгаў, стэрэатыпаў, установак. Як патрэбны нам

такія падыходы — цвярозыя, лагічныя, незаангажаваныя — ва ўсіх сферах нашага жыцця, асабліва ў нацыянальнай і рэлігійнай! Найперш менавіта ў тых, далікатных, дзе часта верх бяруць і перакрываюць шлях здароваму сэнсу эмоцыі і пачуцці.

Усход і Захад, праваслаўе і каталіцтва — два цывілізацыйныя кіты, на якіх усё спрабуе ўгрунтавацца Беларусь. Але ніводзін з іх не можа цалкам змясціць яе, такую наравістую і капрызную, адначасна па-хрысціянску ціхмяную і сціплую, па-еўрапейску талерантную, гаспадарлівую і годную, па-славянску высокадухоўную і рамантычную Беларусь! Усяго дзесяцімільённая, яна змяшчае ў сабе цэлы свет, нязменна застаючыся таямніцаю і для свету, і для самой сябе.

Апошнім часам многімі даследчыкамі-культуролагамі (аўтар гэтых радкоў — не выключэнне) стала шырока сцвярджацца ідэя, што на працягу апошніх двух стагоддзяў пераважна рыма-каталіцкая канфесія спрычынілася да беларускага нацыянальна-культурнага руху. Манаграфія І. Чароты дае фактычна-гістарычныя падставы сумнявацца ў гэтым. Аўтар спрабуе, і досыць удала, знішчыць стэрэатып, што праваслаўе нібыта нічога не зрабіла для беларушчыны, развіцця беларускай культуры, асветы. Іншая справа, сцвярджае даследчык, што гісторыя праваслаўя ў Беларусі, асабліва ў плане асветным, мала вывучана.

Як сведчыць анатацыя да кнігі, манаграфія — "першая ў айчыннай і замежнай філалогіі спроба комплексна прааналізаваць праблему "Беларуская мова і Царква". Аўтар працы як сакратар Беларускай Біблійнай камісіі скарыстоўвае вопыт камісіі, разглядаючы шырокае кола пытанняў гістарычнага і тэарэтычнага планаў, а таксама асаблівасці практыкі перакладу Свяшчэннага Пісання, літургічных і багаслоўскіх тэкстаў на беларускую мову". Здзейснена выданне з блаславення Яго Высокапраасвяшчэнства мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі, пры непасрэднай падтрымцы і на сродкі Свята-Петра-Паўлаўскага сабора г. Мінска і Праваслаўнага брацтва святых віленскіх мучанікаў.

Кніга складаецца з уводзін, васьмі раздзелаў і бібліяграфіі, грунтоўнасць якой вызначаецца сваёй тыпалогіяй: "Пераклады Свяшчэннага Пісання, богаслужбовых і катэхізацыйных тэкстаў на беларускую мову ў XX стагоддзі", "Праца Біблійнай камісіі Беларускага экзархата РПЦ у асвятленні друку", "Пытанне "Беларуская мова і Царква" ў гістарычным і актуальным змесце", "Тыпалогія праблемы "Нацыянальныя мовы – Царква – Свяшчэннае Пісанне".

Ужо ва ўводзінах дастаткова поўна і канцэптуальна акрэслена праблематыка, вызначана яе спецыфіка, ступень складанасці і агульны ўзровень яе распрацаванасці. Як піша аўтар, тут былі ўлічаны "аб'ектыўныя супярэчнасці моўнай сітуацыі на Беларусі ў ранейшыя эпохі і цяпер, значэнне царкоўнаславянскай спадчыны і традыцыі, належнае стаўленне да мовы літургіі, асаблівасці беларускага вопыту здзяйснення ідэі "нацыянальная мова — у царкву".

Кніга напісана на багатым фактычным матэрыяле, з выкарыстаннем прац і аналізам меркаванняў айчынных і замежных аўтарытэтнейшых навукоўцаў. Яна сапраўды комплексная, адначасова аналітычная і сінтэтычная. Кожны

радок, кожнае слова тут заслугоўваюць увагі, бо нясуць вялікую сэнсавую нагрузку — філалагічную, тэалагічную, філасофска-культуралагічную і сацыяльна-гістарычную. Без сумнення, манаграфія выкліча зацікаўленую, гарачую і зацятую палеміку. Мы ж абмяжуемся цяпер толькі некаторымі заўвагамі.

Асноўная ідэя кнігі: патрабаванне часткі сучаснага беларускага грамадства, ці, дакладней, нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі, перавесці сацыяльную дзейнасць Праваслаўнай Царквы ў Беларусі на беларускую мову адразу і канчаткова разглядаецца як радыкальнае, непрафесійнае, палітызаванае і вельмі павярхоўнае, неапраўданае ні сутнасна (для царквы), ні гістарычна, ні перспектыўна. Царква — не дзеля мовы, і з гэтым цяжка не пагадзіцца. Але хіба зямная царква ёсць царква абстрактная? Хіба не прысутнічае тут — балюча, неадназначна — чалавечы фактар?

Разам з тым, ці маем мы права разглядаць хрысціянства толькі ў зямным, гістарычным і сацыяльна-культурным плане? Безумоўна, не. І. Чарота не сумняваецца, што да рэлігіі ніяк нельга падыходзіць са свецкімі меркамі. Хрысціянства, тым не менш, апрача таго што з’яўляецца сацыяльным інстытутам, носіць сацыяльны характар і мае таксама і сацыяльнае значэнне. Яшчэ М. Бярдзяеў у сваёй працы “Русская идея: Основные проблемы русской мысли XI века и начала XX века” (Парыж, 1946) ужывае тэрмін “сацыяльнае хрысціянства”. Так, чытаем: “То, что Гоголь проповедывал личное нравственное совершенствование и без него не видел возможности достижения лучшей общественной жизни, может привести к неверному его пониманию […] в действительности, подобно многим русским, он проповедывал социальное христианство. И вот это социальное христианство было ужасно […] иерархически высшие — добродетельны, иерархически низшие — покорны и послушны. Утопия Гоголя низменна и рабья. Нет духа свободы, нет горячего призыва вверх” (с. 48). І вывад: “Только христианство антропоцентрично и в принципе своем освобождает человека от власти космоса и общества…” (с. 99).

Што датычыць прэтэнзій аўтара да некаторых даследчыкаў хрысціянства гістарычнага (Л. Лыч, А. Астапенка і інш.), чые працы трактуюцца як “скажоныя, падпарадкаваныя надзённа-палітычным фактарам” (с. 44), а некаторыя іх тэзы — як “кан’юнктурныя, надуманыя” (с. 44), то застаецца незразумелым, чаму І. Чарота то дапускае існаванне хрысціянства як гістарычнага феномена, г. зн. канкрэтна-сацыяльнага, выяўленага ў часе і прасторы (напрыклад, у раздзеле “Беларуская мова ў рэлігійнай сферы: спроба гістарычнага агляду”), то не дапускае, як у дадзеным выпадку. Калі ж гаварыць пра беларускую нацыянальную ідэю, то, нягледзячы на вялікую папулярнасць тэрміна, змест яго не вызначаны. Для мяне ж зразумела, што сутнасць беларускай ідэі не абмяжоўваецца пэўным часам і нават прасторай, нельга яе зводзіць толькі да праблем беларускай дзяржаўнасці ці задач, што стаяць перад беларускім грамадствам у пэўны гістарычны перыяд. Няма сумнення, што беларуская ідэя выяўляе сутнасць, спецыфіку і прызначэнне беларускай нацыі на гэтым свеце, а менавіта форму беларускай духоўнасці, беларускага спосабу адухаўлення быцця. У такім

разуменні беларуская ідэя — па-за часам і прасторай, як і Хрысціянская Царква (не зямная, але нябесная). Таму беспадстаўным падаецца тое, што "па сутнасці неабгрунтаванымі і нават алагічнымі з'яўляюцца азначэнні тыпу "хрысціянства як нацыянальная ідэя" (с. 44). У адзінай святой саборнай і апостальскай Праваслаўнай Царквы Хрыстовай няма абмежаванняў "ніякім месцам, ні часам, ні народам"…

Асобнае пытанне — мова і царква. Тут аўтар адразу робіць істотныя заўвагі. Па-першае, што "хрышчэнне Русі, беларускіх зямель у тым ліку, і евангелізацыя нашых продкаў адбываліся з дапамогаю не чужой мовы; па-другое, што Руская Праваслаўная Царква на працягу ўсёй гісторыі свайго існавання не мела і дагэтуль не мае кананічнага, у дакладным сэнсе, тэксту Бібліі" (с. 6). Увесь час аўтар кнігі мае на ўвазе гэтыя тэзы: царкоўнаславянская мова — не чужая нам, як, зрэшты, і руская; і, нягледзячы на мноства перакладаў на беларускую мову тэкстаў Святога (ці Свяшчэннага, як піша аўтар) Пісання, пераважная іх большасць далёкая ад дасканаласці. "…заклікамі, справамі асобных энтузіястаў і нават стараннямі пэўнай часткі грамадства не дамагчыся, каб мова беларуская стала "роўнасвяшчэннай" ці хоць бы агульнапрызнанай як годная дзеля выкарыстання ў Царкве" (с. 71). Можна пагадзіцца, што ў справе перакладу Бібліі, а таксама ўвогуле ў практыцы выкарыстання беларускай мовы ў царкве патрэбны перадусім прафесійны, грунтоўны і адказны падыход. Але што датычыць "нероўнасвяшчэннасці" беларускай мовы, тут я рашуча пратэстую. Некарэктная сама пастаноўка пытання аб годнасці ці нягоднасці мовы дзеля выкарыстання ў царкве. Божая літасць і міласэрнасць усяму дае жыццё і права на самаразвіццё. Якія абмежаванні могуць быць у дачыненні да беларускай мовы? Ці беларускі народ не варты таго, каб праслаўляць Усявышняга? Але ж Бог на баку тых, хто пакутуе. На баку нашым, нашай зруйнаванай зямлі, страчанай спадчыны і нявызначанай перспектывы.

Разам з тым, мова, як і культура, павінна быць па-над палітыкай, на ёй нельга спекуляваць і выкарыстоўваць яе ў мэтах карыслівых, у мэтах палітычных, на патрэбу аднаго дня. Ніхто не можа прыватызаваць мову, абвясціць яе сваёй уласнасцю, а сябе — адзіным яе абаронцам і патрыётам. Зрэшты, як і думку, як элементарнае, прыроднае чалавечае права. Але гэта — асобная праблема, не менш важная і складаная.

Што такое "матчына мова" ў дачыненні да царквы? І. Чарота сцвярджае, што яна — царкоўнаславянская, і прыводзіць шэраг аргументаў. Я не ўпэўнена ў гэтым, бо першая мова Святога Пісання — не царкоўнаславянская.

Менавіта кірыліца, на думку даследчыка, іманентна ўласцівая беларускай культуры і беларускаму светаўспрыманню. І. Чарота адмаўляе ўсялякія ўплывы — лексічныя, граматычныя — польскай мовы. Наўрад ці нашае жаданне ў стане спыніць магутны цывілізацыйна-культурны заходні ўплыў. Ці ўвесь геаграфічна-гістарычна-геапалітычна-культурны пласт Заходняй Беларусі — не Беларусь?

Сапраўды, мае рацыю даследчык, калі піша, што нельга пры перакладах Святога Пісання дапускаць элементы размоўнага стылю, бо яно — не проста літаратурны

твор, хай сабе і велізарнага культурнага значэння. Але ж наяўнасць у мове розных стыляў, у тым ліку і размоўнага, — паказчык яе высокаразвітасці. Будучы асабліва "высокай" у часы Вялікага Княства Літоўскага, беларуская мова сёння далёка не вычарпала свой патэнцыял, працягвае развівацца — і дзякуй Богу!

Прыемна ўражвае, што аўтар дасканала ведае пераклады Святога Пісання, у тым ліку і зробленыя ксяндзамі, на беларускую мову і можа іх суаднесці як паміж сабой, так і з напрацоўкамі Беларускай Біблійнай камісіі.

Увогуле раздзел, прысвечаны тэалагічнай тэрміналогіі, нагадвае хутчэй публіцыстычны газетны артыкул, у якім аўтар спрачаецца з тымі сваімі сучаснікамі, хто, на яго думку, занадта легкадумна, зыходзячы з патрэбаў дня, ставіцца і да царквы, і да беларускай мовы. Па сутнасці, сваімі развагамі І. Чарота яшчэ раз падштурхнуў нас да думкі аб неабходнасці стварэння тэалагічна-тэрміналагічнай камісіі на "нейтральнай" канфесійнай тэрыторыі, скажам, у Скарынаўскім цэнтры. Тым больш што нават у межах адной канфесіі мы маем шмат розных падыходаў — што ж казаць ужо пра "рознаканфесійныя"! Тут і гістарычныя традыцыі канфесіі, і адпаведная культурная арыентацыя, і тэалагічны, лінгвістычны ўзровень падрыхтоўкі перакладчыкаў, і шмат іншых фактараў.

Адным словам, манаграфія І. Чароты заслугоўвае павагі за смеласць і дакладнасць аўтарскай пазіцыі, а таксама самай пільнай увагі даследчыкаў, усіх тых, хто цікавіцца праблемай узаемадачынення беларускай мовы і царквы.

***Любоў Уладыкоўская-Канаплянік**, кандыдат філалагічных навук*

## БЕЛОРУСЫ В СИБИРИ. НОВОСИБИРСК, 2000. 146 с.

У выдавецтве Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук выйшла кніга "Беларусы ў Сібіры" — навуковы зборнік, у артыкулах якога асвятляюцца пытанні, якія тычацца міграцый беларусаў у Сібір, пачынаючы з канца XVI ст. і да сярэдзіны XX ст., — грамадска-палітычных, сацыяльна-эканамічных, тэрытарыяльных і інш.

Зборнік падрыхтаваны і выдадзены беларускімі і сібірскімі даследчыкамі пры фінансавай падтрымцы Расійскага гуманітарнага навуковага фонду і Беларускага рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў у рамках Пагаднення паміж Сібірскім аддзяленнем Расійскай акадэміі навук і Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве. Гэта выданне — першы практычны вынік сумеснай работы беларускіх і сібірскіх гісторыкаў па навукова-даследчаму праекту "Беларусы ў Сібіры. XVI–XX стст.", які выконваецца ў рамках адзначанага Пагаднення. Поўная рэалізацыя праекта прадугледжвае падрыхтоўку калектыўнай абагульняючай працы, у якой будзе адлюстравана чатырохвяковая гісторыя беларускай дыяспары ў Сібіры.

У зборнік уваходзяць шэсць навуковых артыкулаў, а таксама прадмова, напісаная сумесна дырэктарам Інстытута гісторыі Сібірскага аддзялення РАН У. Ламіным і дырэктарам Інстытута гісторыі НАН Беларусі М. Сташкевічам.

У. Ламін параўноўвае асваенне Сібіры ў канцы XVI ст. з эпохай вялікіх геаграфічных адкрыццяў, калі мелі месца аналагічныя працэсы. Ён лічыць, што выхадцы з тэрыторыі сучаснай Беларусі і памежных з ёй краін уключаліся ў працэс руху ў Сібір аднымі з першых — хто па асабістай волі, хто пад уздзеяннем жыццёвых абставін. Аўтары засяроджваюць увагу на гістарыяграфічным і крыніцазнаўчым баку праблемы, вылучаюць навукова-метадалагічныя і практычныя задачы, якія ўзнікаюць перад даследчыкамі, падкрэсліваюць неабходнасць грунтоўнага аналізу вялікага комплексу фактараў, якія вызначалі сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў Сібіры і Беларусі. Неабходна ўсебакова даследаваць беларускую міграцыю розных часоў — яе накірункі і плыні, колькасць і саслоўна-сацыяльны склад, прычыны, уключыць перамяшчэнні беларусаў у Сібір у агульную карціну перамяшчэнняў беларускага насельніцтва.




Артыкул беларускага даследчыка Р. Лешчанкі “Беларусы-перасяленцы ў Сібіры (канец XVI– XVII ст.)” з’яўляецца спробай выяўлення перадумоў, характару перасяленняў, а таксама вызначэння сацыяльнага складу выхадцаў з Беларусі ў канцы XVI–XVII ст. Аўтар выдзяляе некалькі шляхоў з’яўлення выхадцаў з Беларусі: у выніку ўцёкаў ад феадальнага ўціску; у якасці ваеннапалонных; у выніку добраахвотнага перасялення і інш. Адзначаецца, што згодна з архіўнымі дакументамі і навуковымі публікацыямі з’яўленне першых выхадцаў з Беларусі ў Сібіры адзначана ўжо ў канцы XVI ст.

Артыкул сібірскіх даследчыкаў Д. Разуна і І. Сакалоўскага прысвечаны аналізу тэрміна “літва” ў дакументах сібірскага справаводства. У дачыненні да выхадцаў з тэрыторыі Беларусі маглі ўжывацца розныя тэрміны ў залежнасці ад таго, у якое саслоўе траплялі перасяленцы. У адносінах да сялян і пасадскіх людзей іншы раз выкарыстоўваўся тэрмін “беларусы”, у адносінах да служылых людзей ужываліся розныя тэрміны, у т. л. “літва”, “казакі літоўскага спісу” і інш. Увогуле “літва” складалася з выхадцаў з самых розных пластоў насельніцтва — дробнапаместнай і беспаместнай шляхты, мяшчан, гараджан, сялян, казакоў і інш., якія адрозніваліся характарам сацыяльных паводзін, звычаямі і г. д. У дадатку да артыкула змешчаны біяграфічны паказальнік “Выхадцы з тэрыторыі Беларусі на рускай казацкай службе ў Сібіры ў XVII ст.”, дзе прыведзены каля 260 імёнаў і прозвішчаў. Паказальнік, як падкрэсліваюць аўтары, уключае звесткі толькі пра тэрытарыяльную прыналежнасць выхадцаў з Беларусі, а не пра іх нацыянальнасць.

Г. Бачанава даследуе перасяленні з Беларусі ў Сібір у другой палове XIX – пачатку XX ст. (фактычна ў 1861–1904 гг.). У складзе насельніцтва Сібіры значнае месца займалі перасяленцы з беларускіх губерняў Расійскай імперыі: Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай. Аўтар падкрэслівае, што галоўную ролю ў фарміраванні передумоў сялянскіх перасяленняў выконвала малазямелле, якое значна ўзрасло пасля рэформы 1861 г. З 80-х гг. XIX ст. сібірскі напрамак у перасяленні з Беларусі становіцца дамінуючым. Аўтар прыводзіць лічбы, якія характарызуюць колькасць беларускіх перасяленцаў у 1899–1903 гг. (афіцыйнымі ўладамі зарэгістравана 117 767 чалавек, ці 23,5 тыс. чалавек у год у сярэднім). У 1904 г. у сувязі з руска-японскай вайной перасяленне ў Сібір было прыпынена. Дадаткам да артыкула з'яўляюцца табліцы, якія паказваюць у лічбах рух перасяленцаў у 1885–1904 гг.

Артыкул А. Фурсавай "Традыцыйна-побытавая асаблівасць культуры беларусаў-перасяленцаў канца XIX – пачатку XX ст." напісаны на падставе матэрыялаў этнаграфічных экспедыцый. У ім аналізуюцца асаблівасці мовы, заняткаў і промыслаў, вопраткі, абутку, традыцыйнага харчавання, посуду, каляндарных і рэлігійных святаў, міфалогіі, вераванняў, шлюбных звычаяў і іншай абраднасці выхадцаў з заходніх губерняў Расійскай імперыі. У якасці дадатку апублікаваны спіс перасяленцаў з заходніх губерняў Расіі, зроблены ў наш час на падставе апытання інфарматараў, ён уключае каля 30 прозвішчаў.

Даследаванне беларускага гісторыка Л. Лыча прысвечана пытанням нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР і беларускай дыяспары ў Сібіры ў 1920-я – першай палове 1930-х гг. У 1920-я гг. назіраўся новы этап масавага перасялення сялян з Беларусі ў Сібір, выкліканы спробамі вырашыць за кошт гэтага зямельнае пытанне. Звесткі аб справах на радзіме, аб поспехах палітыкі беларусізацыі спрыялі імкненню перасяленцаў захаваць у сваім жыцці як мага больш самабытных рысаў, асабліва родную мову. Гэтаму спрыялі і савецкія ўлады, аддзелы народнай адукацыі, якія спрабавалі забяспечыць беларусаў масавай літаратурай і перыядычнымі выданнямі на роднай мове, вырашыць пытанне нацыянальнай адукацыі перасяленцаў. Цікавасць да жыцця беларусаў у Сібіры ў гэты час праяўлялі і прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, якія ў канцы 1920-х – пачатку 1930-х гг. не па сваёй волі, а ў выніку рэпрэсій савецкай улады супраць так званых "нацдэмаў" былі высланы на сібірскія абшары. З пачатку 1930-х гг. сітуацыя з вырашэннем нацыянальнага пытання ў БССР стала вельмі неспрыяльнай, ідэя беларусізацыі ўсё менш упісвалася ў рамкі нацыянальнай палітыкі, якая праводзілася ў СССР. Таму шмат з таго, што было намечана як у самой Беларусі, так і за яе межамі, засталося нерэалізаваным. Нацыянальная свядомасць перасяленцаў падтрымлівалася галоўным чынам на сямейна-побытавым узроўні.

Завяршае зборнік артыкул Ф. Баланева, у якім аўтар разглядае беларуска-ўкраінскія элементы ў духоўнай культуры стараабрадцаў Забайкалля. Аўтар падкрэслівае, што продкі забайкальскіх стараабрадцаў амаль стагоддзе жылі на Украіне і Беларусі, што ў выніку этнічнага ўзаемадзеяння ў іх культуры

адлюстраваліся некаторыя беларуска-ўкраінскія ўплывы — у мове, вераваннях, абраднасці, фальклоры.

***Ларыса Языковіч**, кандыдат гістарычных навук*

## ЛЕОНИД СМИЛОВИЦКИЙ. КАТАСТРОФА ЕВРЕЕВ В БЕЛОРУССИИ 1941–1944 гг. ТЕЛЬ-АВИВ, 2000. 432 с.

Гэтую кнігу нельга чытаць спакойна, без смутку і шкадавання. Яна расказвае пра трагедыю вынішчэння беларускіх габрэяў у гады мінулай вайны. Асабліва ўражваюць успаміны людзей, якія нейкім цудам засталіся ў жывых. У выніку нацысцкага генацыду загінула не меней 750 тыс. габрэяў. Менавіта ў Беларусі, на думку аўтара, нацысты ўпершыню на практыцы выпрабавалі механізм пагалоўнага вынішчэння габрэяў (с. 306). Гэта істотна змяніла дэмаграфічную сітуацыю ў рэспубліцы. Другое месца пасля беларусаў замест габрэяў занялі рускія. Калі летам 1941 г. габрэі складалі 12,8% насельніцтва БССР, то ў 1959 г. — усяго 1,86% (с. 32).




Кніга — інфармацыйная і, у значнай ступені, наватарская. Так, пры апісанні прыкладаў ратавання габрэяў улічваюцца псіхалагічныя моманты. Самастойнае і каштоўнае значэнне набываюць матэрыялы аб пакутах габрэйскіх дзяцей. Асобная глава прысвечана супраціўленню палітыцы генацыду. Чытач атрымлівае гістарычныя даведкі пра ўсе гарады і мястэчкі, дзе меліся гета і вынішчаліся габрэі. Заключныя раздзелы прысвечаны праблеме ўшанавання ахвяр у пасляваенны час і вывучэнню гісторыі Халакосту (Катастрофы). Даследаванне вядзецца на аснове шырокага выкарыстання архіўных матэрыялаў Беларусі, Ізраіля, Расіі, а таксама ўспамінаў сведкаў. Генацыд нацыстаў прасочваецца на прыкладзе лёсаў канкрэтных людзей, а таму з абстрактнага паняцця ператвараецца ў зусім адчувальную і зразумелую рэч. Асобнае месца адведзена сведчанням Ільі Эрэнбурга аб слядах злачынства нацыстаў у Беларусі (с. 234–237). Кніга ўтрымлівае слоўнік тэрмінаў і імён, бібліяграфію, узоры дакументаў, адрасы габрэйскіх абшчын у Беларусі і Ізраілі, імянны і геаграфічны індэксы, фотадакументы, карты. І толькі сюжэт пра ўзаемаадносіны палякаў і беларусаў пад акупацыяй выбіваецца з агульнай канвы апавядання.

Манаграфія, безумоўна, будзе карыснай для гісторыкаў Беларусі. У ёй яны знойдуць не толькі новыя факты з недаступных для іх архіваў, новыя мето-

дыкі, але і прыклад грамадзянскай адказнасці аўтара перад сваімі суайчыннікамі за праўдзівае адлюстраванне мінулага. Яго кніга — своеасаблівы мемарыял ахвярам нацызму. У той жа час праца Л. Смілавіцкага не толькі і, можа, нават не столькі пра вынішчэнне габрэяў, колькі пра іх барацьбу за выжыванне і неверагодную прагу да жыцця. Кніга яшчэ раз пераконвае, што меркаванне савецкіх гісторыкаў пра адсутнасць габрэйскага супраціўлення ў гады вайны не адпавядае сапраўднасці. У той жа час, габрэі не выстаўляюцца ні толькі выключна нязломнымі барацьбітамі, ні толькі выключна святымі пакутнікамі. Аўтар разважліва і крытычна, без лішніх эмоцый, але з болем у сэрцы і крок за крокам даследуе чарговае выпрабаванне свайго народа, выпрабаванне смерцю.

Важна падкрэсліць, што даследаванне катастрофы мясцовых габрэяў падаецца аўтарам ў кантэксце агульнай гісторыі Беларусі. Выпрабаванне вайной прайшлі і беларусы. Адны гінулі, ратуючы Айчыну і суайчыннікаў, у тым ліку і габрэяў, іншыя выступілі саўдзельнікамі нацысцкага генацыду: выдавалі габрэйскія сем'і, рабавалі іх маёмасць. Антысемітызм сярод мясцовага насельніцтва і партызан — гэта якраз тая далікатная тэма, якая дагэтуль старанна замоўчваецца беларускімі гісторыкамі і якая адкрыта і зацікаўлена вывучаецца Л. Смілавіцкім. Адзінае, з чым можна не пагадзіцца, — дык гэта аднясенне ім усіх беларускіх нацыяналістаў, якія супрацоўнічалі з акупантамі, да антысемітаў (с. 156).

Галоўная ж заслуга аўтара ў тым, што ён упершыню канкрэтна і прама абвінавачвае ў антысемітызме прадстаўнікоў бальшавіцкай улады ў Беларусі. Перад вайной яны ведалі пра злачынствы нацыстаў, але нават не праінфармавалі аб гэтым сваіх грамадзян. У час вайны яны ведалі пра масавае вынішчэнне габрэяў на акупаваных тэрыторыях, але не прапанавалі ніякай праграмы іх выратавання. Пасля вайны гэтыя ж кіраўнікі перашкаджалі ўстанаўленню помнікаў ахвярам-габрэям, забаранялі друкаваць звесткі пра вынішчэнне габрэяў, перашкаджалі развіццю культуры на ідыш. На месцы габрэйскіх могілак у Сіроціне бальшавікі пабудавалі свінаферму, а ў Гродне габрэйскія могілкі зруйнавалі, надмагільныя ж пліты скарысталі для фундамента помніка Леніну (с. 278).

Кніга мае грамадскую значнасць. Яна раскрывае невядомую ці малавядомую раней праўду аб узаемаадносінах беларусаў і габрэяў пад нацысцкай акупацыяй. І гэта праўда паспрыяе ўзаемапаразуменню двух народаў, павышэнню аўтарытэту габрэйскай абшчыны ў Беларусі, а ў канчатковым выніку — кансалідацыі беларускага грамадства. Бо гістарычная праўда толькі ўзмацняе ўзаемадавер паміж цывілізаванымі нацыямі і ніколькі не шкодзіць наладжванню іх сумеснага жыцця. Ва ўсякім разе, можна з упэўненасцю сказаць, што засцярога аўтара аб знікненні габрэяў у Беларусі (с. 286) ніколі не спраўдзіцца.

***Захар Шыбека**, доктар гістарычных навук*

## І. Б. КАНАПАЦКІ, А. І. СМОЛІК. ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ТАТАР: ВУЧЭБ. ДАПАМ. Мн., 2000. 259 с.

Мне ўяўляецца, што ў любові палкай, шчымлівай, самаахвярнай і вечнай да сваёй Бацькаўшчыны-Беларусі шмат каму, нават з сапраўдных беларусаў, трэба павучыцца ў беларускіх татар. Ніхто з іншых народнасцей краіны, яе грамадзян не робяць на хвалу Беларушчыны, яе нацыянальнага выпакутаванага адраджэння больш, чым яны. Дастаткова тут прывесці ў прыклад толькі адно святое імя для ўсіх нас — гэта імя Сцяпана Александровіча. Мабыць, таму ў сваім вершы "Беларускія татары", прысвечаным Якаву, Сыну Адамаву, Якубоўскаму (буйнейшаму беларускаму энцыклапедысту, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР), народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін так уражліва і ўзвышана напісаў:

Татары!
Множцеся й пладзіцеся,
Вы нашыя.
Салям алейкум!




…Перада мной вучэбны дапаможнік "Гісторыя і культура беларускіх татар" з адметным арнаментам, які так да спадобы гэтай народнасці. Як адзначаецца ў прадмове, "у сваёй новай Айчыне татарскія пасяленцы з пакалення ў пакаленне ўжываліся ў мясцовы сацыяльна-палітычны і бытавы ўклад і станавіліся паўнапраўнымі грамадзянамі і самаадданымі абаронцамі".

Адразу ж адзначу, што дапаможнік "Гісторыя і культура беларускіх татар", які выйшаў у Беларускім універсітэце культуры накладам 500 экземпляраў у асаблівым і шматзначным 2000 годзе, з'яўляецца першым такім выданнем пра адну з больш ста народнасцей, якія насяляюць нашу дзяржаву. І, несумненна, — гэта падзея ў навуцы і культуры Беларусі.

У анатацыі да кнігі гаворыцца: "З пазіцый сучасных метадалагічных падыходаў разглядаюцца праблемы этнагенезу і менталітэту татар, якія пражываюць на тэрыторыі Беларусі. Значнае месца займаюць матэрыялы, прысвечаныя моўнай культуры, пісьменству беларускіх татар, іх святочна-абрадавай традыцыі, рэлігійнаму жыццю, быту, асноўным заняткам".

У навукова-папулярным выданні пяць раздзелаў: "Паходжанне татар і іх рассяленне на ўсходне-еўрапейскай раўніне", "Мова беларускіх татар", "Мусульманская адукацыя татар", "Рэлігійнае жыццё татар у Беларусі", "Літаратурная і вусная народная творчасць", а таксама пытанні для навучэнцаў і самаадукацыі, спісы літаратуры. А ў заключэнні расказваецца аб стварэнні Беларускага

згуртавання татар-мусульман “Аль-Кітаб” (у перакладзе — кніга) і Мусульманскага рэлігійнага аб’яднання ў Беларусі (для цікаўных адзначым, што беларускія татары вызнаюць сунізм), аб урачыстасцях у краіне з нагоды 600-годдзя пасялення татар у Беларусі, Польшчы і Літве. На 259 старонках кнігі старанна, высокапрафесійна, павучальна і займальна выкладзены з першых гадоў да апошніх усе аспекты існавання і сужыцця беларускіх татар на сваёй Бацькаўшчыне, якія ўсім сэрцам і розумам прынялі сабе роднай беларускую мову, а захавалі сваю адметнасць, самабытнасць, традыцыі і звычкі толькі таму, што вызнавалі і вызнаюць святую веру сваіх продкаў — іслам.

Беларускія татары маюць свае друкаваныя органы — часопіс-штоквартальнік “Байрам: Татары на зямлі Беларусі”, штомесячную газету “Жизнь” і выданні сваіх штогодніх міжнародных навукова-практычных канферэнцый.

Хто ж сёння з’яўляецца інспіратарам гэтых выданняў, “маторам” шматлікіх беларуска-татарскіх гістарычных, культурных і іншых мерапрыемстваў, імпрэз, вечарын, “круглых сталоў”, сходаў і шмат чаго яшчэ яскравага і цікавага? Адказ адзін: гэта вучоны, педагог, грамадскі і рэлігійны дзеяч, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей Ібрагім Канапацкі, ён жа і аўтар шматлікіх пазнавальных кніг. Ібрагім Канапацкі разам з доктарам культуралогіі, прафесарам гісторыі Аляксандрам Смолікам арганізавалі творчы тандэм па стварэнню унікальнага вучэбнага дапаможніка. Яго добра дапаўняюць ілюстрацыі, тлумачэнні шмат якіх татарскіх слоў, тэрмінаў і назваў.

Як каго, а мяне “Гісторыя і культура беларускіх татар” моцна ўразіла. Сам я ўжо даўно займаюся праблемамі розных аспектаў жыцця гэтай самабытнай народнасці, але, тым не менш, не мог адарвацца ад гэтага цікавага і шматзначнага выдання, бо папрацавалі над ім кампетэнтныя і адказныя людзі, якія жывуць высокімі думамі і марамі, каб і надалей мацаваць і яднаць усе народнасці Беларусі і адначасова захаваць іх самабытнасць, адметнасць.

***Міхась Маліноўскі,***
*правадзейны член Геаграфічнага таварыства (Баранавічы).*

## МАКСІМ ГАРЭЦКІ. ПУБЛІЦЫСТЫКА 1918–1919 гг. Мн., 2000. 158 с.

Над кнігай Максіма Гарэцкага працавалі аж тры вельмі дасведчаныя даследчыкі — складальнікі Віталь Скалабан і Вячаслаў Селяменеў, навуковы рэдактар Міхась Мушынскі. Пошукі вялі яны ў трох гарадах — Мінску, Смаленску, Варшаве. Да выдання кніжкі далучыліся дзве дзяржаўныя ўстановы — Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь і нядаўна створаная грамадская арганізацыя Рэспубліканскі фонд імя братоў Гарэцкіх. І не дзіўна. Доўгі час публіцыстыка пісьменніка была пад арыштам. У 1990–1995 гг. яе адтуль вызвалілі. Шмат што

з публіцыстычнай спадчыны, прысвечанай беларускай літаратуры і нацыянальна-культурнаму адраджэнню, ужо друкавалася ў дадатковым томе (1990) чатырохтомнага Збору твораў М. Гарэцкага. Але яшчэ заставаліся terra incognita, галоўным чынам, публікацыі ў расійскіх і рускамоўных выданнях Смаленскага Савета і газеце "Звязда". Усе яны падпісаны псеўданімамі Дзед Кузьма, Панасій Бізун, Дзяркач, Святой Нос і крынтанімамі Ф. К., Д. К-а, П. Б. Характар псеўданімаў сведчыць пра жанр: фельетон, іранічныя або сатырычныя нататкі.

Кароткае супрацоўніцтва М. Гарэцкага і Янкі Купалы з бальшавіцкай уладай у 1918–1919 гг. сведчыць пра майстэрства бальшавікоў у палітычнай тактыцы: яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі Ленін абвясціў права народаў Расіі на самавызначэнне аж да аддзялення і стварэння сваёй дзяржавы. Мясцовыя кадры, хоць бы той жа латыш В. Кнорын, спачатку сустрэлі гэтую ідэю ў штыкі. Але хутка зразумелі, што яна — толькі тактычны ход у палітычнай гульні. Канчатковая мэта — Вялікая Расія, цяпер ужо Савецкая.




Складальнікі кніжкі і, верагодна, яе рэдактар М. Мушынскі, які кіраваў тэксталагічнымі даследаваннямі спадчыны М. Гарэцкага, перакананыя, што атрыбуцыя гэтых твораў у асноўным закончана, што яны належаць пяру Гарэцкага. Хоць паводле зместу некаторыя публікацыі ў мяне выклікаюць сумненні. Зразумела, пісьменнік быў на раздарожжы: якраз тады пісалася яго таленавітая аповесць "Дзве душы". Зразумелы таксама і яшчэ адзін, ужо дасціпны, аргумент: у чужы манастыр са сваім статутам не ходзяць.

Я згодзен: бальшыня апублікаваных у кніжцы артыкулаў, фельетонаў, нататак сапраўды напісана М. Гарэцкім. Але ёсць мяжа кампрамісу. У мяне, напрыклад, скалалася ўражанне, што антыбеларускі артыкул "Беларуская рэспубліка" прадыктаваў які-небудзь Кнорын, падпісаўшыся папулярным у чытачоў псеўданімам Дзед Кузьма. Я прачытаў амаль усе дарэвалюцыйныя рускамоўныя газеты ў Беларусі. Практыка агульнага псеўдаціма тады была не рэдкасць. Бальшавіцкая прэса пераняла стылістыку дарэвалюцыйных ліберальных і чарнасоценных газет, пераняла і той дрэнны жаргон вялікай рускай мовы, на якім пісаліся газеты — пераважна "инородцами".

Выснова. Кніга — добрая вестка пра тое, што можна будзе дачакацца Поўнага збору твораў класіка беларускай літаратуры. Але праблема тэксталагічнай атрыбутыкі і аўтарскай тоеснасці яшчэ застаецца.

***Уладзімір Конан,*** *доктар філасофскіх навук*

# НАДРУКАВАНА ПРА КАНТАКТЫ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

У падрыхтоўцы бібліяграфіі ўдзельнічалі:

***Моніка Банкоўскі** (Швейцарыя), **Венета Георгіева-Козарава** (Балгарыя), **Валянціна Грышкевіч**, **Раіса Жук-Грышкевіч** (Канада), **Таццяна Караткевіч-Саганок** (Эстонія), **Святлана Кошур**, **Цімох Ліякумовіч** (ЗША), **Адам Мальдзіс**, **Таццяна Махнач**, **Марыя Плакса**, **Таццяна Пятровіч**, **Віталь Скалабан**, **Людміла Хмяльніцкая**, **Вячка Целеш** (Латвія), **Міхал Швэдзюк** (Вялікабрытанія), **Сакрат Яновіч** (Польшча).*

Асаблівая падзяка ***пасольствам*** Беларусі ў ***Латвіі, Польшчы і Расіі***.

Перавага пры складанні бібліяграфіі аддаецца кніжным і часопісным публікацыям, якія паступаюць у ГА “МАБ” і Цэнтр імя Ф. Скарыны. З іншымі публікацыямі пра ўзаемасувязі, змешчанымі ў перыёдыцы, можна пазнаёміцца ў Банку інфармацыі таго ж Цэнтра.

Пры складанні бібліяграфіі найперш улічваюцца тыя перыядычныя выданні, рэдакцыі якіх прысылаюць іх у банк інфармацыі.

## БАЛГАРЫЯ

**Антология** на беларуската поезия / Съст. и увод. статия Румяна Евтимова. София, 2000.

**Антология** на беларуската поезия (Бележка) // Български писател. 2000. 25/27.09–2.10. С. 10–11.

**Беларус.** Ако се интересувате от рок: Беларуски състави / Пр. от бел. В. Георгиева // Арт Форум (В. Търново). 2000. Бр. 33. Июни/юли. С. 8.

**Евтимова Румяна.** Белорускатa поезия през вековете // Антология на беларуската поезия. София, 2000. С. 4–19.

## БЕЛАРУСЬ • Агульныя пытанні

**Баршчэўскі Лявон.** Росквіт еўрапейскай літаратуры ў эпоху Адраджэння: Літаратура ў гуманітарным ліцэі // Род. слова. 2000. № 3. С. 51–55.

**Бразгуноў Алесь.** Рыцарскі раман у перакладной беларускай літаратуры XVI ст.: Аповесць пра Трышчана // Род. слова. 2000. № 6. С. 25–26.

**Грамыка Людміла.** І гораду, і свету: [Пра фестываль “Славянскія тэатральныя сустрэчы ў Гомелі”] // Мастацтва. 2000. № 8. С. 10–17.

**Грыбоўскі Юрась.** Беларускія “Зубры”: Удзел беларусаў-вайскоўцаў у баёх на заходніх франтох другое сусьветнае вайны ў складзе 5-е крэсавае дывізіі Польскіх збройных сілаў // Спадчына. 2000. № 3. С. 91–101.

**Жлутка Алесь.** Заходняе хрысціянства на Беларусі: Балтыйскія шляхі хрысціянства // Наша вера. 2000. № 2. С. 14–20.

**Капшай Наталля.** Супрацьстаянне абсурду: Асэнсаванне літаратуры экзістэнцыялізму ў школе // Род. слова. 2000. № 6. С. 50–53.

**Конан Уладзімір.** Мастацкая культура Беларусі эпохі Рэнесансу // Мастацтва. 2000. № 8. С. 2–5.

**Ларыёнаў Дзяніс.** Каталіцызм у Лацінскай Амерыцы (60–90-я гг. XX ст.) // Бел. гіст. часоп. 2000. № 3. С. 33–39.

**Ліхач Тамара.** Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. 2000. № 2. С. 34–41.

**Павільч Аляксандр.** Асветніцкая накіраванасць малітоўнай паэзіі Сярэднявечча // Род. слова. 2000. № 8. С. 21–24.

**Падгайскі Міхаіл.** Цюркскія запазычанні ў сістэме сучаснай беларускай мовы // Род. слова. 2000. № 8. С. 47–49.

**Пичуков В. П., Старовойтов М. И.** Гомельщина многонациональная (20–30-е годы XX века). Гомель, 1999. Вып. 1.

**Плотнікаў Браніслаў.** Беларуская мова ў сістэме славянскіх моў // Род. слова. 2000. № 6. С. 36–42; № 8. С. 40–46.

**Рудовіч Марыя.** Літэкспрэс [з пісьменнікамі еўрапейскіх краін] у Беларусі // Літ. і мастацтва. 2000. 14 ліп.

**Свістуновіч Сымон.** Адам Міцкевіч і Іван Фёдараў — землякі? // Звязда. 2000. 12 жн.

**Сідарэнка Барыс.** Усходняя палітыка ВКЛ у першай трэці XVI стагоддзя // Бел. гіст. часоп. 2000. № 3. С. 40–45.

**Славянскія** літаратуры ў кантэксце сусветнай: Матэрыялы IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай” (Мінск, 12–14 кастрычніка 1999 г.). Мн., 2000. Ч. 1, 2.

**Цыбульскі Генадзь.** Стагоддзе бурлівых зменаў [у выяўленчым мастацтве Еўропы]: Эпілог // Мастацтва. 2000. № 8. С. 18–22.

**Шамрук Ала.** Пра камень… і пра скульптуру: [Пра Міжнародны пленэр у Мінску “Інтэграрт-99”] // Мастацтва. 2000. № 8. С. 31–33.

**Швед Вячаслаў.** Вялікае княства Літоўскае ў 1812 годзе // Бел. гіст. часоп. 2000. № 3. С. 9–15.

**Ярашэвіч Аляксандр.** “І напоўніліся ўсе духам святым…”: Сюжэты Спаслання Святога Духа і Тройца ў старажытнабеларускім мастацтве // Наша вера. 2000. № 2. С. 28–33.

## • Беларусь – Аўстрыя

**Берасцень С.** Шонберг па-беларуску: [Пра выкананне твораў аўстрыйскага кампазітара] // Літ. і мастацтва. 2000. 14 ліп.

**Еловик Елена.** Город, где никогда не заходит солнце: [Пра Вену] // 7 дней. 2000. 15 июля.

## • Беларусь – Балгарыя

**АГЛ.** Беларуская паэзія праз вякі: [Рэц. на: Антология на беларуската поезия. София. 2000] // Кн. мир. 2000. 14 сент.

**Аніскові Уладзімір.** “Беларускі сшытак” у Балгарыі // Літ. і мастацтва. 2000. 7 ліп.

**Валянціна Куляшова:** “У Балгарыі я была сама сабой, а не дачкой Аркадзя Куляшова”: [Інт.] / Зап. Святланы Явар // Чырвон. змена. 2000. 9 верас.

## • Беларусь – Бельгія

[**Жучка Янка**]. Айцец Робэрт ван Каўвэлярт дэ Уільс: З успамінаў Янкі Жучкі // Голас Радзімы. 2000. 26 ліп.

**Матюшина Галина.** Политические беженцы: мифы и реальность: [Пра беларускую эміграцыю ў Бельгіі] // Нар. воля. 2000. 11 ліп.

## • Беларусь – Ватыкан

**Мажэйка Павал.** Папа рымскі спаткаецца з гарадзенцамі: [Пра XV Сусветны дзень моладзі] // Пагоня. 2000. 10 жн.

**Сіцька Здзіслаў.** Хрысціянства на заходніх землях Беларусі: Задумы папы Інакенція IV // Дыялог. 2000. № 9. С. 14.

**Сямёнава Ала.** Sursum corda!: Рэха пілігрымкі [у Італію] // Наша вера. 2000. № 2. С. 21–27.

**Ян Павел II.** Энцыкліка fides et ratio Святога Айца Яна Паўла II да біскупаў каталіцкага Касцёла пра адносіны паміж вераю і розумам / Пер. з пол. Крыстыны Лялько // Наша вера. 2000. № 2. С. 2–13.

**Ejsmont Halina**. O, szczęśliwy młody Kościele!: O, Roma felix! — mówił 15 sierpnia Jan Paweł II do młodzieży zebranej na placu Św. Jana na Lateranie w Rzymie // Głos znad Niemna. 2000. 1 wrześ.

## • Беларусь – Вялікабрытанія

**Белавусава В.** Лонданскі позірк на Мінск: [Пра даведнік Гая Пікарды] // Літ. і мастацтва. 2000. 4 жн.

## • Беларусь – габрэі

**Бачило Александр.** Укор палачам на века: [Пра мемарыял “Яма” ахвярам Халакосту] // Цэнтр. газ. 2000. 14 ліп.

**Белова Ольга.** Евреи в обрядах и поверьях полешуков (этнокультурные стереотипы в народной традиции) // Загароддзе-2: Матэрыялы навук.-краязн. канферэнцыі “Палессе — скрыжаванне культур і часу”. 25–27 верас.1999 г., Пінск. Мн., 2000. С. 80–82.

**Дзелянкоўскі Мікола.** “Ад Мінска да Ла-Манша…: [Аб прэзентацыі дакументальнай аповесці Галіны Давыдавай, ахвяры Халакосту] // Голас Радзімы. 2000. 5 ліп.

**Евреи Гродно:** Очерки истории и культуры. Гродно, 2000.

**Сабалеўская Вольга.** Спрадвечныя іншаземцы: Старонкі гісторыі гарадзенскіх яўрэяў. Гародня, 2000.

## • Беларусь – Германія

**Антонава-Мельяновіч Таццяна.** “Па іхніх агародах будзем ведаць іх…”: [Пра нямецкага мастака Хейнца Гугеля] // Культура. 2000. 8–15 ліп.

**Арсентьева М. Ф.** Аксиологические и телеологические предпосылки становления школьного образования в Германии // Адукацыя і выхаванне. 2000. № 7. С. 72–75.

**Бабкова Ала.** Пра бабскае царства без двукоссяў: У Мінску прайшла рэтраспектыва фільмаў нямецкага рэжысёра Хельке Зандэр // Мастацтва. 2000. № 7. С. 41–44.

[**Байлхарц Манфрэд**]. Еўропа — зала чакання, вакзал для…?: [Інт. з дырэктарам Міжнароднага тэатральнага фестывалю “Бонскае біенале — 2000” М. Байлхарцам] / Зап. Таццяны Ратабыльскай // Культура. 2000. 22–28 ліп.

**Вільберг Сільвія** [Германія]. Адрозненні ў дасягненнях розных полаў // Адукацыя і выхаванне. 2000. № 7. С. 13–14.

**Выхота Валянціна.** “Назад не прыйдзе хваля тая…”: Матыў вады ў паэме Якуба Коласа “Новая зямля” і ў нямецкай паэзіі // Род. слова. 2000. № 8. С. 92–93.

**Дорст Танкрэд.** “На партале майго тэатра я б напісаў: мы — не дактары, мы — боль”: [Інт. з нямецкім драматургам] // Культура. 2000. 22–28 ліп.

**Кенька Міхась.** Галоўнае жаданне — працаваць: [Пра германіста і беларусіста, нашага аўтара Уладзіміра Сакалоўскага] // Голас Радзімы. 2000. 26 ліп.

**Клімчук Віктар.** На іншых паглядзець, сябе паказаць: [Пра выстаўку ў Гановеры] // Культура. 2000. 26 жн.-1 верас.

**Крупкіна Галіна.** Мастацкі космас гётэўскага “Фаўста” і яго перастварэнне па-беларуску // Род. слова. 2000. № 7. С. 29–34; № 8. С. 31–35.

**Кузнецов Игорь.** Клады Третьего рейха [у час Другой сусветнай вайны] // Нар. воля. 2000. 12 ліп.

**Макарэвіч Віталь.** Рудольфу Абіхту — выдатнаму нямецкаму беларусісту — 150 гадоў // Наша слова. 2000. 23 жн.

**Н. Ц**[ыпіс]. Блакітны вершнік (нататкі з выставы) [у Брэмене] // Культура. 2000. 29 ліп. – 4 жн.

**Папова Алена.** “Трэба палюбіць сябе і не зайздросціць, што нехта жыве лепш”: [Інт. з патронкай Бонскага біенале “Новыя п’есы Еўропы”] // Культура. 2000. 22–28 ліп.

**Поўх Ларыса.** Музейная педагогіка [у школах Германіі] // Настаўн. газ. 2000. 2 верас.

**Сакалоўскі Уладзімір.** Беларуска-нямецкае літаратурнае ўзаемадзеянне ў XX ст.: тэндэнцыі і кірункі // Род. слова. 2000. № 7. С. 37–42.

**Сакалоўскі Уладзімер.** Беларускае сялянства пад уціскам таталітарнае дзяржавы: [Рэц. на: Siebert Diana. Bauerliche Alltagsstrategien in der Belarussischen SSR (1921–1941): Die Zerstörung patriarchalischer Familienwirtschaft. Stutgart, 1998] // Спадчына. 2000. № 3. С. 214–223.

**Сакалоўскі Уладзімір.** Творчасць Янкі Купалы ў Нямеччыне // Полымя. 2000. № 7. С. 182–199.

**Сініла Галіна.** “Памры і адрадзіся!”: Творчы шлях Ёгана Вольфганга Гётэ // Род. слова. 2000. № 7. С. 23–28; № 8. С. 25–30.

**Смірноў Мікалай.** Дзейнасць савецкай разведкі і контрразведкі супраць нямецкіх спецслужбаў на тэрыторыі Беларусі ў 1941–1944 гг.: Да 55-годдзя з дня перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне // Бел. гіст. часоп. 2000. № 3. С. 3–8.

**Сульдина Мирослава.** Как увидеть родину Гете? // Туризм и отдых. 2000. 27 июля.

**Шапран Сергей.** В германо-белорусском “плену”: Известный белорусский переводчик Василь Сёмуха едва не стал “невъездным” в… Беларусь // Бел. деловая газ. 2000. 15 сент.

**Belarussische** Erzählungen = Беларускія апавяданні / Уклад. і прадм. У. Сакалоўскага. Пер. з бел. Г. Гербат, Н. Рандаў і інш. Мн., 2000.

**Sakalouski Ul.** Belarussische Novelle auf Deutsch // Belarussische Erzählungen = Беларускія апавяданні. Мн., 2000. С. 3–4.

## • Беларусь – Грэцыя

**Данейко Елена.** Приблизить эксперимент: театральная академия на фоне горных пейзажей // Бел. деловая газ. 2000. 18 авг.

**Хорош Николай.** Обряды греков Приазовья в связи с обрядами жителей Полесья // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 71–74.

## • Беларусь – ЗША

**Антонава-Мельяновіч Таццяна.** Формула жыцця, альбо Як беларусы “Полацака” [у ЗША] ратавалі Ромку [ахвяру чарнобыльскай аварыі] // Голас Радзімы. 2000. 5 ліп.

**Аўдзееў Барыс.** Вялікі запавет: (Опера ў трох паўндах з оверпаўндам) // Крыніца. 2000. № 4–5. С. 142–147.

**Данейко Елена.** “Случай в зоопарке” [па п’есе Эдварда Олбі] на белорусских подмостках // Бел. деловая газ. 2000. 14 сент.

**Ксянзоў Ігар, Ксянзоў Сяргей.** Сацыяльна-эканамічная палітыка ўрада Канфедэратыўных Штатаў Амерыкі ў час грамадзянскай вайны ў 1861–1865 гг. // Бел. гіст. часоп. 2000. № 3. С. 28–32.

**Кудрыцкі Алесь.** Вера па-амэрыканску // Наша ніва. 2000. 24 ліп.

**Линц Хуан Дж.** Опасности президенства // Адкрытае грамадства. 2000. № 1. С. 22–32.

**Мышкина Анна.** Джек Лондон: …И морфий в конце // Кн. мир. 2000. 13 июля.

**Пранчак Леанід.** Самотны паэт: Гутарка з маўклівым чалавекам [Янкам Золакам з ЗША] // Маладосць. 2000. № 7. С. 234–243.

[**Харык Рыгор**]. “Прафесар Хігінс” [бел. оперны спявак Рыгор Харык] з Сан-Францыска: [Інт.] / Зап. Вольгі Наважылавай // Літ. і мастацтва. 2000. 4 жн.

**Хадановіч Андрэй.** Замест Гамера: …вакол Паўнда: (заўвагі да пачатку беларускага перакладу “Песняў”) // Крыніца. 2000. № 4–5. С. 170–175.

**Шапран Сергей.** Среди живших не значится: Более полувека назад предано забвению имя создателя белорусской национальной оперы Вячеслава Селяха [ЗША] // Бел. деловая газ. 2000. 14 июля.

### • Беларусь – Ізраіль

**Лапцік Вячаслаў.** Вакол — скалы распісаныя: Пра падарожжа ў Ізраіль // Род. прырода. 2000. № 4. С. 15–16.

### • Беларусь – Казахстан

**Алесін Уладзімір.** Сабіт [Муканаў] — наша вялізнае багацце: [Пра казахскага пісьменніка] // Культура. 2000. 22–28 ліп.

### • Беларусь – Кіпр

**Власкин Александр.** Кипр, единый и неделимый // Бел. деловая газ. 2000. 7 июля.

**Кавальчук Наталля.** Музыка стварае душу: [Пра кіпрскага кампазітара Ф. Кальварыса] // Літ. і мастацтва. 2000. 14 ліп.

### • Беларусь – Кітай

**Михович Сергей.** Наше открытие Китая; В обнимку с морем; Все не могут [быць] одновременно богатыми… // Рэсп. 2000. 13, 14 ліп.

**Сяошэн Лян.** Исповедь бывшего хунвэбина: [Пов.] / Пер. с кит. Григория Кошубы. Мн., 2000.

### • Беларусь – Літва

**Германовіч Іван.** Антон Антановіч [вільнюскі беларусіст]: Да 90-годдзя з дня нараджэння // Род. слова. 2000. № 6. С. 49.

**Лецка Яўген.** Велічная постаць Вітаўта Вялікага: 650 гадоў ад нараджэння // Літ. і мастацтва. 2000. 4 жн.

**Матарас Валянцін.** Органы ўлады і кіравання ў Вялікім княстве Літоўскім (XIV–XVI стст.) // Бел. гіст. часоп. 2000. № 3. С. 22–27.

**Трусаў Алег.** Матэрыяльная культура беларускага горада ў часы Вялікага княства Літоўскага // Бел. гіст. часоп. 2000. № 3. С. 56–59.

### • Беларусь – Малдова

**Заяц Іван.** З гісторыі вёскі Падгор'е: [Прафесар Тэхнічнага універсітэта Малдовы расказвае пра сваю родную вёску на Клічаўшчыне] // Голас Радзімы. 2000. 12 ліп.

[**Лучынскі Петру**]. Петру Лучынскі: “Рэформы праходзяць балюча, і чуць словы ўдзячнасці не даводзіцца…”: [Інт.] / Зап. Наталлі Салук // Голас Радзімы. 2000. 5 ліп.

**Скарынкін У.** Недалёкая нам Малдова… // Літ. і мастацтва. 2000. 28 ліп.

### • Беларусь – Нарвегія

**Маразевіч-Іоська Святлана.** Нарвежскія гастролі “Дударыкаў” // Пагоня. 2000. 31 жн.

### • Беларусь – Нідэрланды

**Бланкард Оливер.** Голландское чудо // Наша свабода. 2000. 18 ліп.

### • Беларусь – Польшча

**Александрович М. О.** Польско-белорусское научное сотрудничество: (Всепольская студенческая конференция “Aktualia–2000”) // Адукацыя і выхаванне. 2000. № 7. С. 76.

**Букчин Семен.** Василь Быков: “Если же Беларусь станет одной из провинций Российской империи — то не будет ничего…”: [Пра інт. В. Быкава варшаўскай газеце “Gazeta Wyborcza”] // Нар. воля. 2000. 14 ліп.

[**Быкаў Васіль**]. Найперш незалежнасць: Інт. В. Быкава карэспандэнтам польскай “Gazety Wyborczej” Войцэху Мадзярскаму і Вользе Гардзейчык // Наша свабода. 2000. 11 ліп.

**Вабішчэвіч Аляксандр.** Навукова-асветніцкая праца ў заходнепалескім рэгіёне (1921–1939 гг.) // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 28–31.

**В'югінава Ірына.** Ян Карловіч: Невядомыя старонкі творчай біяграфіі [як кампазітара і музыказнаўцы] // Мастацтва. 2000. № 7. С. 21–24.

**Выславух Францішак.** Прафесар / Пер. з пол. В. Вярэніча // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 198–203.

**Вярэніч Вячаслаў.** Францішак Выславух і яго ўспаміны пра Палессе // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 196–197.

**Галоўскі Антон.** Пісала па-польску пра нашага брата: [Пра выданне твораў Элізы Ажэшка ў Мінску] // Культура. 2000. 26 жн. – 1 верас.

**Гардзіенка Алег.** Найноўшая гісторыя Беларусі вачыма еўрапейца: [Рэц. на: Міpановіч Яўген. Навейшая гісторыя Беларусі. Беласток, 1999] // Полымя. 2000. № 7. С. 216–223.

**Глагоўска Хелена** [Гданьск]. Дзейнасць Лукаша Дзекуця-Малея сярод баптыстаў на Палессі // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 32–35.

**Грыбоўскі Юры.** Удзел беларусаў у Польскіх сілах збройных на Захадзе: Моўны аспект // Наша слова. 2000. 12 ліп.

**Дучыц Людміла.** Роля мазаўшан у этнічнай гісторыі Заходняга Палесся (паводле археалагічных дадзеных) // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 15–19.

**З палескай** калекцыі 1929 года архіва Інстытута мастацтваў ПАН у Варшаве / Публ. Вольгі Лабачэўскай // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 204.

**Занусси Кшиштоф.** Закат "века разума" — надежда на возрождение духовности: [Інт.] // Совет. Белоруссия. 2000. 16 сент.

[**Карпіньскі Цэзары**]. Калі справа няблага ідзе…: [Інт. з дырэктарам Польскага інстытута Ц. Карпіньскім] / Зап. Уладзіміра Старасценкі // Культура. 2000. 29 ліп. – 4 жн.

**Карпіньскі Цэзары.** Памёр Ежы Гедройц // Звязда. 2000. 19 верас.

[**Карпіньскі Цэзары**]. Феномен белорусской культуры, который таит в себе много шансов быть раскрытым и понятым не только самими белорусами, но и иностранцами: [Інт.] / Зап. Елены Данейко // Бел. деловая газ. 2000. 30 авг.

[**Карпіньскі Цэзары**]. Цезарий Карпиньски: "С Беларусью нас связывают общие корни": [Інт.] / Зап. Аллы Казаковой // Вечер. Минск. 2000. 17 авг.

**Лешніца Кастусь.** Чарговае вяртанне Агінскіх: [Пра прэзентацыю зборніка музычных твораў] // Літ. і мастацтва. 2000. 14 ліп.

**Матяс Ирина.** Музыка свободы: "Танцы" с Намысловским в Минске // Бел. газ. 2000. 11 сент.

**Машкевич Мариуш.** Добрый и умный пастырь: [На смерць прафесара Кракаўскага універсітэта ксяндза Юзэфа Цішнера] // Совет. Белоруссия. 2000. 12 июля.

**Мішакова Юлія.** Фердынанд Рушчыц: Ля касцёла // Род. слова. 2000. № 6. С. 78–79.

**Паўлючук Уладзімір** [Кракаў]. Надзвычайнае / Пер. з пол. Алеся Чобата // Наша вера. 2000. № 2. С. 42–45.

**Полуцкая Нина.** Поляки, но другие [з мястэчка Сапоцкіна] // Бел. деловая газ. 2000. 14 сент.

**Пясецкі Яўген.** У рушчыцкім спрадвечным полі: [Пра пленэр у гонар Ф. Рушчыца] // Звязда. 2000. 8 жн.

**Рагойша Вячаслаў.** Пра Купалу, Міцкевіча і многае іншае // Літ. і мастацтва. 2000. 7 ліп.

**Раманчук Анатоль.** "Згартаю святло да святла…": Да 60-годдзя Яна Чыквіна [з Беластока] // Голас Радзімы. 2000. 19 ліп.

**Саламаха Владимир.** Полпреды слова: [Пра беларускіх пісьменнікаў Польшчы] // Сов. Белоруссия. 2000. 15 сент.

**Смулкова Эльжбета.** Заключнае слова // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 189–190.

**Смулкова Эльжбета.** Успамін пра добрага, мудрага чалавека [В. Вярэніча] // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 191–193.

**Тарасэвич Лёник.** "Я рисовал палкой на бетонных заборах…": [Інт.] / Пер. с пол. Д. Подберезского // Бел. деловая газ. 2000. 5 авг.

**Харужы Вячаслаў.** Ксёндз доктар Юзаф (Атаназы) Рэшаць (1890–1958) / Пер. з пол. Д. Бурнос // Наша вера. 2000. № 2. С. 61–64.

**Хвірысюк Віктар.** Палескае ваяводства ў 1920–1925 гг.: міжнацыянальныя дачыненні і палітычнае становішча // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 25–27.

**Часноўскі Мечыслаў.** Беларуска-польскія адносіны ў 1996–1999 гг. // Бел. гіст. часоп. 2000. № 3. С. 16–21.

**Biełocka Tatiana**. Język polski w szkołach na Ostrowiecczyźnie // Słowo ojczyste. 2000. Nr 5. S. 4.

**Bieńkowski Czesław**. Deklaracja programowa Społecznego Zjednoczenia "Związek Polaków na Białorusi" // Głos znad Niemna. 2000. 15 wrześ.

**Borysow Ilia**. 90-letni obrońca Warszawy: [Пра краязнаўца Апанаса Цыхуна] // Głos znad Niemna. 2000. 25 sierp.

**Czyżewski Feliks.** Czas w kulturze ludowej pogranicza polsko-wschodniosłowiańskiego: Zarys problematyki // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 51–55.

**Czyżewski Krzysztof**. Ludzie młodzi — ludzie pogranicza // Słowo ojczyste. 2000. Nr 5. S. 25–27.

**Dubikowski Andrzej**. Niemen znad Niemna: [Пра польскага спевака Чэслава Немана родам з Беларусі] // Głos znad Niemna. 2000. 4 sierp.

**Dubikowski Andrzej**. Poeta serca i zmysłów: Karpiński był i jest jednym z poetów najmocniej osadzonych w polskiej świadomości zbiorowej // Głos znad Niemna. 2000. 15 wrześ.

**Engelking Anna.** Poleska ekspedycja etnosocjologiczna Józefa Obrębskiego w latach 1934–1937: Cześć pierwsza: 1934–1936 // Загароддзе-2. Мн., 2000. С. 36–44.

**Franckiewicz Halina**. Dołączyć do korzeni polskich: [Пра культурную работу сярод палякаў у Астравецкім р-не] // Głos znad Niemna. 2000. 14 lipca.

**Franckiewicz Halina**. Polska w naszym sercu: [Пра развіццё польскай культуры ў Астравецкім р-не] // Głos znad Niemna. 2000. 15 wrześ.

